# БАЙРАМ

لا اله الا الله محمد رسول الله

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

1. 1992

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН НА БЕЛАРУСІ
("АЛЬ-КІТАБ")

№ 1
МЕНСК 1992

Згуртаванню татарау-мусульман на Беларусі / "Аль-Кітаб" / добразычлівую і вялікую дапамогу аказалі спадарыні і спадары: Т.АБРАМОВІЧ, Л.АЛЕКСАНДРОВІЧ, М.АСАНОВІЧ, А.АСІПОВІЧ, І.АФНАГЕЛЬ, Л.БАЖОК, М.БАЙРАШЭЎСКІ, М.БАРАНІК, В.БАРАДУЛІНА, А.БАРКОЎСКІ, Х.БАСЬЮНІ, І.БЫХАВЕЦ, В.ВАЙТКЕВІЧ, І.ВАРАНОВІЧ, Р.ГАМЬОВІЧ, С.ГЕМБІЦКІ, Н.ГІЛЕВІЧ, Я.ГУЧОК, А.ГРЫЦКЕВІЧ, Я.ЖДАНОВІЧ, С.ЖЫНКІНА, С.ІЛЬЯСЕВІЧ, Т.КАВАЛЕЎСКАЯ, Л.КАЗЛОЎ, Т.КАНАПАЦКАЯ, А.КАНАПАЦКІ, М.КАНАПАЦКІ, Я.КАРПІНЧЫК, М.КАРЫЦКАЯ, М.КЕНЬКА, Р.КУЗЬМІЦКАЯ, А.ЛАКОТКА, С.МАКАЁНАК, І.МАМУТАЎ, Г.МАСЛЫКА, І.МАХНАЧ, В.МАЦЮШЭНКА, І.МЕМЕТАЎ, А.МУРЗІЧ, С.МУХАРСКІ, В.НАДЗІНЕНКА, А.НАЛІВАЕЎ, А.ПАЛУЯН, У.ПРЫХАЧ,С.РАМАНЧУК. Й.РЫДЗВАНАВІЧУС, М.САВІЦКІ, В.САДУР, І.САЛАМЕВІЧ, В.САРАЕЎ, Ю.СЕТАРАЎ, В.СКАЛАБАН, А.СМАЙКЕВІЧ, Ю.СТАФАНАЎ, Дз.СТЭЛЬМАХ, М.СУША, А.ТАМАРГАЕВА, У.ТРАЦЭЎСКІ, А.ТРУСАЎ, У.УСМАНАВА, Ф.ФАІЗАЎ, Г.ФАТЫХАВА, С.ХАЗБІЕВІЧ, Р.ХАКІМАЎ, А.ХАСЯНЕВІЧ, С.ЦЯРОХІН, І.ЧАРНЯЎСКІ, В.ШАРАНГОВІЧ, Г.ШЫКУНОВА, А.ШЭГІДЭВІЧ, В.ЮШКЕВІЧ, Г.ЯНКОЎСКІ, І.ЯНУШАЎСКАС, Т.ЯКУБОЎСКАЯ, А.ЯКУБОЎСКІ, І.ЯСТРАБ.

Прыміце татарскі рахмат і глыбокую пашану.

Згуртаванне татараў-мусульман на Беларусі
/ "Аль-Кітаб" /

---

Падпісана да друку ................
Тыраж 200 экз. Фармат 60 х 84 I/16
Ум. друк. арк. 3,72. Папера друк. № I. Зак.
Надрукавана на ратапрынце Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага
Мінск, вул. Савецкая, I8

ГОРАД КАЗАНЬ. ТАТАРСКАМУ ГРАМАДСКАМУ ЦЭНТРУ.
УПРАВА БНФ "АДРАДЖЭННЕ" ВІНШУЕ НАРОД ТАТАРСТАНА З ДЭМАКРАТЫЧНЫМ ВЫЯЎЛЕННЕМ ВОЛІ ДА АДНАЎЛЕННЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ. ЗЫЧЫМ НАРОДУ ТАТАРСТАНА ДАБРАБЫТУ, ШЧАСЦЯ, ГОДНАГА УВАХОДУ Ў СУСВЕТНУЮ СУПОЛЬНАСЦЬ.

СТАРШЫНЯ БНФ "АДРАДЖЭННЕ" ЗЯНОН ПАЗЬНЯК
САКРАТАР УПРАВЫ БНФ "АДРАДЖЭННЕ" ВІНЦУК ВЯЧОРКА
МЕНСК 23 САКАВІКА 1992 Г.

---

Салям алейкум, паважаныя спадарыні і спадары !
У гэтым годзе мы сустракаемся ўпершыню і, як кажуць мусульмане Іншала / з ласкі Алаха /, можа не астатні раз.

У жыцці згуртавання "Аль-Кітаб" адбыліся ў гэтым годзе дзве важныя падзеі, пра якія мы з прыемнасцю паведамляем нашым чытачам. Першая -- утварэнне Уммы мусульман Літвы, Польшчы і Беларусі. Татары, якія жывуць у гэтых трох дзяржавах, маюць агульныя гістарычныя карані. Амаль кожная татарская сям"я на Беларусі мае блізкую ці далёкую радню ў Літве і Польшчы, падтрымлівае з імі пастаянныя сувязі. На з"ездзе прадстаўнікоў татараў гэтых дзяржаў у Менску ў студзені 1992 г. было абрана кіраўніцтва і вызначана рэзідэнцыя -- Вільня. Найважнейшая задача Уммы на бліжэйшы час -- падрыхтоўка да святкавання 600-годдзя пасялення татараў на зямлі Вялікага княства Літоўскага.

Другая падзея -- урачыстае святкаванне Раджаб-Байрама, якое адбылося ў Менску ў Доме літаратара I лютага 1992 г. Сабралася даволі шмат мусульман з Менска, іншых гарадоў Беларусі. Прынялі чынны ўдзел нашы браты-мусульмане з арабскіх краін.

На наша свята прыйшлі госці -- прадстаўнікі праваслаўнай, каталіцкай, гэбрайскай канфесій, атэісты. Не абышло сваёй увагай гэты вечар і наша Беларускае Радыё. У згуртаванні "Аль-Кітаб" захоўваецца магнітазапіс выступленняў прамоўцаў і невялікай мастацкай часткі.

I апошняе. Настаў вельмі трывожны час. Хоць у нашай Рэспубліцы Беларусь, дзякуй Алаху, спакойна, у суседзяў ліецца чалавечая кроў. Кіраўніцтва згуртавання татараў-мусульман на Беларусі "Аль-Кітаб" сярод розных партый і грамадскіх арганізацый падпісала Антыкрызіснае пагадненне, але ўсё ж мы змяшчаем у нашым квартальніку "Зварот да грамадскіх і дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь". Толькі калі гэтыя словы дойдуць да сэрца кожнага нашага чытача, мы адчуем небяспеку, што пагражае нашай Бацькаўшчыне і зробім усё магчымае, каб не дапусціць найгоршага.

# З В А Р О Т
## да грамадскасці і дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь

На абшарах былога СССР расце палітычная і сацыяльная напружанасць. Адначасова адбываецца усё большая палітызацыя ўзброеных сіл і расце верагоднасць ваеннага перавароту. Каля межаў Беларусі блукае прывід грамадзянскай вайны.

Мы верым у мудрасць нашага народу і спадзяемся, што негледзячы на цяжкае эканамічнае становішча беларускай дзяржавы на нашай зямлі немагчымы братазабойныя канфлікты, бо беларусы заусёды былі ў стане накарміць сябе і сваіх дзяцей, бо яны ведаюць, што такое вайна. Але існуе і робіцца усё больш рэальнай пагроза таго, што кроў і хаас будуць прынесены да нас звонку. Ужо зараз сілы, апазіцыйныя законным уладам суседніх дзяржаў, і нават некаторыя адказныя асобы ў кіраўніцтве гэтых дзяржаў з трыбун выказваюць намер зноў аднавіць былую таталітарную імперыю. Гэта азначае, што калі ў гэтых рэспубліках, ці паміж імі пачнуцца ўзброеныя канфлікты, то гэта бяда таксама прыйдзе і на нашу зямлю.

Наша дзяржава вельмі маладая. Яна не мае пакуль што ўласных узброеных структур, якія абароняць сувернітэт Беларусі, бяспеку свайго народа. У гэтых абставінах абавязак беларускай грамадскасці аказаць дапамогу дзяржаўным органам рэспублікі ў абароне незалежнасці, дэмакратыі і стабільнасці Беларусі. Таму патрыятычны рух "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў" выступае з прапановай аб заключэнні Антыкрызіснага пагаднення паміж палітычнымі партыямі, рухамі, прафесійнымі, нацыянальна-культурнымі і грамадскімі арганізацыямі, з аднаго боку, і прадстаўнікамі дзяржаўных органаў з другога.

Мэтай пагаднення з"яўляецца каардынацыя дзейнасці яго удзельнікаў пры ўзнікненні крызісу, пад якім мы разумеем пагрозу беларускай дзяржаўнасці. Мы прапануем у бліжэйшы час правесці пасяджэнне удзельнікаў Аныкрызіснага пагаднення з ліку прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў, зацікаўленых у мэтах пагаднення. На гэтым пасяджэнні можна было б зацвердзіць тэкст пагаднення і абраць Антыкрызісны камітэт, галоўнай мэтай якога была б распрацоўка, а пры неабходнасці і рэалізацыя планаў сумесных дзеянняў у стане крызіса.

Мы спадзяемся, што сумеснымі намаганнямі мы здолеем уратаваць нашу Бацькаўшчыну ад хаасу і гвалту, і не дамо уцягнуць яе ў крывавыя канфлікты, якія могуць пачацца побач з нашымі межамі.

22.02.1992 Каардынацыйная рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў

وَلَا تَقُولُوا۟ لِمَن يُقْتَلُ فِى سَبِيلِ ٱللَّهِ أَمْوَٰتٌۢ ۚ بَلْ أَحْيَآءٌ وَلَٰكِن
لَّا تَشْعُرُونَ ﴿١٥٤﴾ وَلَنَبْلُوَنَّكُم بِشَىْءٍ مِّنَ ٱلْخَوْفِ وَٱلْجُوعِ
وَنَقْصٍ مِّنَ ٱلْأَمْوَٰلِ وَٱلْأَنفُسِ وَٱلثَّمَرَٰتِ ۗ وَبَشِّرِ ٱلصَّٰبِرِينَ
﴿١٥٥﴾ ٱلَّذِينَ إِذَآ أَصَٰبَتْهُم مُّصِيبَةٌ قَالُوٓا۟ إِنَّا لِلَّهِ وَإِنَّآ إِلَيْهِ رَٰجِعُونَ
﴿١٥٦﴾ أُو۟لَٰٓئِكَ عَلَيْهِمْ صَلَوَٰتٌ مِّن رَّبِّهِمْ وَرَحْمَةٌ ۖ وَأُو۟لَٰٓئِكَ
هُمُ ٱلْمُهْتَدُونَ ﴿١٥٧﴾ ۞ إِنَّ ٱلصَّفَا وَٱلْمَرْوَةَ مِن شَعَآئِرِ ٱللَّهِ ۖ
فَمَنْ حَجَّ ٱلْبَيْتَ أَوِ ٱعْتَمَرَ فَلَا جُنَاحَ عَلَيْهِ أَن يَطَّوَّفَ
بِهِمَا ۚ وَمَن تَطَوَّعَ خَيْرًا فَإِنَّ ٱللَّهَ شَاكِرٌ عَلِيمٌ ﴿١٥٨﴾ إِنَّ ٱلَّذِينَ
يَكْتُمُونَ مَآ أَنزَلْنَا مِنَ ٱلْبَيِّنَٰتِ وَٱلْهُدَىٰ مِنۢ بَعْدِ مَا بَيَّنَّٰهُ
لِلنَّاسِ فِى ٱلْكِتَٰبِ ۙ أُو۟لَٰٓئِكَ يَلْعَنُهُمُ ٱللَّهُ وَيَلْعَنُهُمُ ٱللَّٰعِنُونَ
﴿١٥٩﴾ إِلَّا ٱلَّذِينَ تَابُوا۟ وَأَصْلَحُوا۟ وَبَيَّنُوا۟ فَأُو۟لَٰٓئِكَ أَتُوبُ
عَلَيْهِمْ ۚ وَأَنَا ٱلتَّوَّابُ ٱلرَّحِيمُ ﴿١٦٠﴾ إِنَّ ٱلَّذِينَ كَفَرُوا۟ وَمَاتُوا۟ وَهُمْ
كُفَّارٌ أُو۟لَٰٓئِكَ عَلَيْهِمْ لَعْنَةُ ٱللَّهِ وَٱلْمَلَٰٓئِكَةِ وَٱلنَّاسِ أَجْمَعِينَ
﴿١٦١﴾ خَٰلِدِينَ فِيهَا ۖ لَا يُخَفَّفُ عَنْهُمُ ٱلْعَذَابُ وَلَا هُمْ يُنظَرُونَ
﴿١٦٢﴾ وَإِلَٰهُكُمْ إِلَٰهٌ وَٰحِدٌ ۖ لَّآ إِلَٰهَ إِلَّا هُوَ ٱلرَّحْمَٰنُ ٱلرَّحِيمُ ﴿١٦٣﴾

Кур"ан. Сура Аль-Бакара, аяты 154 -- 162.

# К У Р " А Н

## Сура Аль-Бакара

/ працяг /

143. Сапраўды, Мы бачым, як часта ты звяртаешся да неба; таму Мы вернем цябе Кыбле мілай табе. Такім чынам, павярніцеся тварам да Свяшчэннай Мячэці і дзе б вы ні былі, стойце тварам да яе. І каму дадзена Кніга, тыя ведаюць, што гэта ёсць ісціна, якая зыходзіць ад Уладыкі іх, і Алах не няўважлівы да таго, што вы робіце.

144. І нават калі ты прынясеш усе магчымыя знакі тым, каму дадзена Кніга, яны ніколі не пойдуць за тваёй Кыблай, калі ты не пойдзеш за іх Кыблай; ніхто не пойдзе за Кыблай другіх. І калі ты будзеш кіравацца іх жаданнем пасля такога ведання, якое табе падаравалі, сапраўды, ты будзеш адным з грэшнікаў.

145. Тыя, каму мы даравалі Кнігу, прызнаюць яе гэтаксама, як яны прызнаюць сваіх сыноў, але, сапраўды, некаторыя з іх сумысля утайваюць ісціну.

146. Гэта ёсць ісціна, што зыходзіць ад Уладыкі твайго; таму не будзь з тымі, якія сумняваюцца.

147. У кожнага ёсць мэта, якая апаноўвае яго; спаборнічайце ж адзін з адным у добрых справах. Дзе бы вы ні былі, Алах аб"яднае вас усіх разам. І праўда, Алах мае ўладу рабіць усё па волі сваёй!

148. І адкуль хто бы ні выйшаў, павярніся да Святой Мячэці, бо гэта ёсць ісціна ад уладыкі твайго. І Алах не забывае пра справы вашы.

149. І адкуль бы ты ні выйшаў, павярніся тварам да Свяшчэннай Мячэці, і дзе б вы ні былі, павярніцеся да яе, каб не асудзілі вас людзі, апроч няправедных. Такім чынам, не бойцеся такіх, а бойцеся Мяне, і каб Я мог зрабіць дабрыню, і каб вы былі навучаны ісціне.

150. Гэтаксама, як Мы паслалі Пасланца з асяроддзя нашага, які абвяшчаў вам знакі нашы і ачышчаў вас і павучаў вас Кнізе і Мудрасці і вучыў вас таму, чаго вы не ведаеце.

151. Таму помніце Мяне, і Я буду помніць вас; і аддзячце Мне не будзьце Мне няўдзячныя.

152. О, вы, вернікі, шукайце дапамогі з цярпеннем і малітваю. Сапраўды, Алах бывае з цвёрдымі.

152. І Мы выпрабуем вас страхам і голадам, і стратаю багацця і пладоў: але дай добрую вестку цярплівым.

154. Якія, калі бясчэсце абрынецца на іх, гавораць: "Сапраўды, Алаху мы належым і да Яго мы вяртаемся".

155. Гэта тыя, на якіх сойдзе дабрыня і літасць Уладыкі іх, і гэта тыя, хто навучаны правільна.

156. Сапраўды, Аль-Сафа і Аль-Марва ёсць знакі Алаха. Таму няма грэху на тым, хто, у час паломніцтва да Дома, або пры здзяйсненні "Умра", праходзіць між намі. І, калі хто робіць дабро звыш належнага, тады сапраўды Алах -- Цаніцель, Усявед.

157. Сапраўды, той, які ўтойвае што-небудзь са знакаў і павучэнняў, пасланых Намі пасля таго, як растлумачылі Мы гэта людзям у Кнізе, тых праклінае Алах; і пракляну́ць іх тыя, якія праклінаюць.

158. Але тым, хто пакаецца і выправіцца, і адкрыта прапаведуе ісціну, Я дарую і Я той, што многа разоў звяртаецца са спачуваннем і Міласэрны.

159. Тыя, што не вераць і паміраюць у нявер"і -- на тых будзе праклянцце Алаха, і анёлаў, і ўсіх людзей.

160. І будзе яно ляжаць на іх, і не будзе ім спачыну.

161. І Бог наш -- адзіны; няма Бога, апрача Яго, Міласцівага, Міласэрнага.

162. І праўда, у стварэнні нябёс і зямлі -- і ў змене ночы і дня -- і ў караблях, што плывуць па морах, каб прыносіць выгоду людзям, і ў вадзе, якую Алах пасылае з неба і ёю ажыўляе зямлю пасля смерці яе, і рассяляе па ёй усякіх звяроў, -- і ў змене вятроў, -- і ў воблаках, што нясуць службу між небам і зямлёю,- ва ўсім гэтым знакі людзям кемлівым.

163. Ёсць сярод людзей такія, што ствараюць сабе знакі пакланення паміма Алаха і любяць іх так, як належыць любіць Алаха. Але вернікі моцныя ў любві сваёй да Алаха, і калі б тыя, што тво-

рацъ беззаконне, маглі б цяпер бачыць той час, калі прыйдзе пакаранне, яны б зразумелі, што ўся ўлада належыць Алаху, і што Алах карае сурова.

164. Сапраўды, зразумелі б яны, каб маглі ўбачыць час, калі тыя, у каго былі паслядоўнікі, адракуцца ад іх і ўбачаць пакаранне, і будуць парваны сувязі паміж імі.

165. І паслядоўнікі іх скажуць: О, каб мы маглі вярнуцца назад. Тады б мы адракліся ад іх, як яны адракліся ад нас! Так пакажа ім Алах справы іх, як пакуты для іх, і яны не выратуюцца ад агню!

166. О, вы людзі, бярыце толькі законнае і добрае, што ёсць на зямлі: не ідзіце па слядах д"ябла, ён вам яўны вораг.

167. Ён заклікае вас рабіць толькі злоснае і нячыстае, і каб вы гаварылі пра Алаха тое, чаго не ведаеце.

168. І калі ім гавораць: "Ідзіце за тым, што паслаў Алах, яны гавораць: "Не, мы пойдзем за тым, за чым ішлі нашы прабацькі". Ці нават і тады, калі іх прабацькі нічога не разумелі і не ішлі дарогай простай?

169. І становішча нявернікаў падобнае на становішча таго, хто звяртаецца да глухога, які нічога не чуе, апрача крыку. Яны глухія, нямыя і сляпыя -- значыць, не разумеюць яны.

170. О, вы, вернікі, каштуйце добрых дароў, што Мы вам прыгатавалі, і падзякуйце Алаху, калі гэта Той, каму вы пакланяецеся.

171. Ён забараніў вам толькі тое, што памірае сваёй смерцю, а таксама кроў і мяса свінні і тое, што было зарэзана не для Алаха. Але той, хто прымушаны есці нячыстую страву, не будучы бязбожнікам і злачынцам, не будзе мець грэху. Сапраўды, Алах Прабачлівы і Літасцівы.

172. Тыя ж, што ўтойваюць пасланае Алахам з Кнігі і бяруць за гэта мізэрную плату, напаўняюць чрэва сваё адным агнём. Алах не звернецца да іх са словам у дзень Уваскрасення і не ачысціць іх. І цяжкое пакаранне чакае іх.

173. Яны --тыя, што купілі блуд у абмен за простую дарогу і пакаранне ў абмен на даравание. І якія ж яны цярплівыя да агню!

174. Бо Алах паслаў Кнігу, у якой ісціна: і тыя, што чыняць разлад адносна Кнігі, глыбока пагразлі ў варожасці.

175. Праведнасць не ў тым, што павяртаецеся тварам на ўсход або захад, праведнасць -- хто верыць у Алаха і ў Апошні Дзень, і ў анёлаў, і ў Пісанне, і ў прарокаў, і хто маёмасць сваю траціць з-за любві да Яго на радню сваю і сірот і гаротнікаў, тых, хто просіць міласціну на выкуп палонных; і хто не забывае Малітвы і плаціць Закаат; і тыя, хто, паабяцаўшы, выканае абяцанае; хто цярплівы ў беднасці і няшчасцях, і стойкі ў час бяды -- гэта тыя, каторыя праўдзівыя, гэта яны -- богабаязныя.

176. О,вы, вернікі, справядлівае пакаранне прызначана вам за забойства, вольны за вольнага, раб за раба, жанчына за жанчыну. І хай хто-небудзь атрымае якую палёгку ад брата свайго, але грошы за пралітую кроў павінны спаганяцца справядліва і забойца павінен шчодра заплаціць за пралітую кроў. Гэта ёсць палёгка і літасць ад Уладыкі вашага. І той, хто пасля гэтага зноў парушыць закон, панясе цяжкую кару.

177. І закон адплаты -- гэта жыццё для вас, о, людзі разумныя, каб вы маглі жыць у бяспецы.

178. І калі смерць наблізіцца да каго, і хто пакіне вялікую спадчыну, то павінен ён скласці тэстамент на карысць бацькоў і блізкай радні, робячы справядліва такі абавязак богабаязных.

179. І калі хто зменіць гэты тэстамент пасля таго, як выслухае яго, вялікі грэх будзе на ім. Алах усё чуе і усё ведае.

180. Але, калі хто ўбачыць неаб"ектыўнасць і несправядлівасць завяшчальніка і прымірыць іх / зацікаўленыя бакі /, то гэта будзе добрая справа. Сапраўды, усё можа дараваць Міласэрны Алах.

181. О,вы, вернікі, пост прызначаны вам, як быў ён прызначаны тым, што былі раней за вас, каб вы маглі дасягнуць праведнасці.

182. Пост вызначаны на пэўную колькасць дзён, але калі хто з вас нямоглы ці падарожнічае, той не пасціць у такія дні, а той, хто можа пасціць з вялікай цяжкасцю, абавязаны, каб адкупіцца, карміць бедняка. І калі хто робіць добрую справу з ахвотаю, таму ад гэтага будзе добра. І, каб вы гэта ведалі, пост карысны вам.

183. Месяц Рамазан ёсць месяц, у якім Кур"ан быў дадзены, як павучанне для чалавецтва, з яснымі доказамі павучання і пазнавання.

Таму, кожны, хто дома ў гэтым месяцы, павінен пасціцца ўвесь месяц. Але, калі хто хворы ці вандруе, той не пасціць у такія дні. Алах дае вам палёгку, а не цяжар, каб вы маглі потым папасціцца на такую колькасць дзён, і каб вы ўзвялічылі Алаха за тое, што Ён навучыў вас і каб вы былі Яму ўдзячныя.

184. І калі Мае слугі будуць пытаць цябе пра Мяне, кажы: Я блізка, Я адказваю на малітву таго, хто просіць, калі Мне шле малітву. Такім чынам, трэба ім слухаць Мяне і верыць у Мяне, каб яны маглі ісці шляхам праўдзівым.

185. Ляжанне з жонкамі вашымі ў ноч паста дазволена вам законам. Яны адзенне ваша, як і вы -- адзенне іх. Алах ведае, што вы несправядліва зрабілі ў адносінах да саміх сябе, таму Ён звярнуўся да вас з міласэрнасцю і падарыў вам палёгку. Такім чынам, з гэтага часу дазволена вам ляжаць з імі і шукаць таго, што Алах загадаў вам. І ешце да таго часу, калі вы зможаце на світанні адрозіць белую нітку ад чорнай ніткі. Затым пасціце да прыходу ночы, і не заходзьце да жонак, бо вам трэба быць у мячэцях для пакланення. Гэта -- межы, устаноўленыя Алахам; глядзіце, не набліжайцеся да іх. Так Алах тлумачыць запаведзі Свае людзям, каб яны маглі засцерагчыся ад зла.

186. Не спажывайце багацце ваша толькі самі, цераз няпраўду, і не прапаноўвайце ўладам як хабар, са свядомым намерам несправядліва спажыць частку багацця іншых людзей.

187. Яны спытаюць цябе пра маладзікі. Скажы: "Яны -- спосаб вымярэння часу для агульнага дабра чалавецтва і для паломніцтва". І не той праведнік, хто ўваходзіць у дом праз заднюю сцяну; але сапраўды праведнік той, хто баіцца Алаха. І трэба вам уваходзіць у дом праз дзверы; і бойцеся Алаха, каб вы маглі дасягнуць поспеху.

188. І змагайцеся ў імя Алаха з тымі, хто змагаецца супраць вас, але не рабіце беззаконня. Сапраўды, Алах не спрыяе тым, хто творыць беззаконне.

189. І забівайце іх, дзе б вы іх ні сустрэлі, і выганяйце іх адтуль, адкуль яны вас выгналі, бо ганенне горш за забойства. І змагайцеся з імі каля Свяшчэннай Мячэці, калі яны нападуць на вас там. Але, калі яны будуць змагацца з вамі, то і вы змагайцеся з імі; такая ёсць адплата няверным.

190. Але, калі яны адступяцца, то ... сапраўды, Алах Усёдаравальны і Міласэрны.

191. І змагайцеся з імі, пакуль не спыняць ганенне і не будзе свабодна вызнавацца вера ў Алаха. Але, калі яны адступяцца, помніце, што варагаванне дапускаецца толькі супраць тых, што нападаюць.

192. Парушэнне святога месяца павінна быць кампенсаванае ў час святога месяца і для ўсіх святых спраў ёсць закон адплаты. Таму, хто парушае закон супроць вас, пакарайце яго за яго злачынства настолькі, наколькі парушаны закон супроць вас. І бойцеся Алаха, і ведайце, што Алах з тымі, хто богабаязны.

193. І будзьце шчодрымі ў імя Алаха, і не стварайце сабе пагібелі сваімі ўласнымі рукамі, і рабіце дабро, сапраўды, Алах спрыяе тым, хто робіць дабро.

194. І рабіце паломніцтва і "Умра" дзеля Алаха; але, калі што стрымае вас, –– тады прынясіце ахвяру, калі можаце і не галіце галавы, пакуль ахвяра не дойдзе да месца прызначэння. Але, калі хто з вас нямоглы, або хварэе галавой, належыць яму выкупіцца пастом, або раздачай міласціны, або ахвяраю. Але, калі вам не пагражае небяспека, тады таму, хто зробіць "Умра" замест "Хадж" належыць зрабіць ахвяру па яго магчымасці. Але таму, хто не зможа знайсці ахвяру, належыць пасціцца тры дні ў час паломніцтва і сем дзён, вярнуўшыся дамоў; усяго дзесць дзён. Гэта адносіцца да тых, чыя сям"я не жыве блізка ад Свяшчэннай Мячэці. І бойцеся Алаха, і ведайце, што Алах суровы ў пакаранні.

195. Месяцы паломніцтва добра вядомыя; хто вырашыць зрабіць паломніцтва ў гэтыя месяцы, павінен памятаць, што ў час яго не павінна быць брыдкаслоўя, ні беззаконня, ні сварак. І Алах ведае пра ўсё добрае, што робіце. І вазьміце неабходныя прыпасы, але найлепшым з прыпасаў ёсць праведнасць. І бойцеся Мяне аднаго, о людзі разумныя.

/ працяг будзе /

# МУХАМАДУН -- РАСУЛУ ЛЛАГІ

## / Мухамед -- пасланнік Алаха /

У наступным урыўку з "Гісторыі пасланнікаў і цароў" арабскага гісторыка / ат-Табары, памёр у 310 г. хіджры, 923 г.н.э. / да-ецца найбольш вядомае апісанне выгляду Прарока / хай будзе бла-слаўлёны Алахам /, як расказваў аб гэтым Алі / чацвёрты халіф /.

Калі ў Алі спыталі, як выглядаў Прарок, ён сказаў наступнае: "Мухамед быў сярэдняга росту, не высокі і не нізкі. Твар у яго быў ружова-белы, вочы цёмныя, валасы густыя, з бляскам, вельмі прыгожыя. Твар абрамляла барада. Доўгія валасы вольна спадалі на плечы, часам валасы завязваў у два ці чатыры пучкі. Да 63 гадоў у яго не было практычна сівых валасоў. Хада яго была вельмі энер-гічнай, здавалася што ён з кожным крокам адрываўся ад зямлі. І ра-зам з тым рух яго быў такім лёгкім, быццам ён і не дакранаўся яе. Аднак у хадзьбе яго не было важнасці, уласцівай некаторым вялі-кім панам. На твары яго было столькі дабрыні, што нельга было адарваць вачэй. Галодным было дастаткова глянуць на яго, як яны адразу забывалі пра яду. Пакутнікі забывалі пры ім пра свае беды, зачараваныя мяккасцю рысаў яго твару і яго мовы. Усе, хто яго ба-чылі, былі адзінадушнымі ў тым, што ніколі ні раней, ні пазней не сустракалі яны чалавека, бяседа з кім была бы настолькі пры-емнай".

Кароткая гісторыя з жыцця прарока Мухамеда. Аднойчы ноччу ў месяцы Рамазан 609 г.н.э. Мухамеду, будучаму прароку, у пячоры Хіра, непадалёку ад Меккі было цудоўнае абвяшчэнне / Вахі /. Ён пачуў голас, які сказаў: "Я, Джабрыл / Гаўрыіл /, анёл, пасланы

Усявышнім, паведаць табе, што Ён выбраў цябе, каб ты перадаў людзям Яго вучэнне". Першае прыказанне было наступным: "Чытай! У імя Госпада твайго, які стварыў чалавека з згустка. Чытай! І Бог твой шчадрэйшы, які навучыў пісьму, навучыў чалавека таму, чаго ён не ведаў".

Гэтыя словы складаюць першыя пяць аятаў 96 суры Кур"ана. У Кур"ане таксама ёсць усе астатнія адкравенні, якія паведаны Мухамеду на працягу наступных 23 гадоў, да самай смерці Прарока ў 632 г. н.э.

Мекка была радзімай Ісламу. У пачатку 7 ст. яна была квітнеючым горадам з насельніцтвам каля 10 тыс. чалавек. Горад стаяў на перасячэнні асноўных гандлёвых шляхоў, якія ішлі праз Аравійскі паўвостраў, які межаваў з дзвюма самымі магутнымі дзяржавамі таго часу -- Візантыйскай імперыяй і Персіяй.

Мекка была вядома сваім храмам, які называўся Кааба, пабудаваным пракокам Ібрагімам са сваім сынам Ісмаілам. Кааба прыцягвала да сябе мноства паломнікаў. Уяўляла сабою будынак кубічнай формы.

Такімі былі абставіны ў той час, калі Мухамед упершыню пачуў адкравенне ў пячоры Хіра. Яму было каля 40 гадоў. Араб, які нарадзіўся пасля смерці свайго бацькі / Абдалах Абу ал-Муталіб / не умеў ні пісаць ні чытаць. Ён стаў хадзіць з караванам, як яго бацька. Да жаніцьбы ён вадзіў караваны ў Сірыю, Йемен і на ўсход Аравіі. Ужо ў маладосці Мухамед праявіў такія якасці, якія вылучалі яго сярод аднагодкаў. Ён быў сумленным чалавекам ва ўсіх адносінах, за што атрымаў ганаровае прозвішча "Аль-Амін" -- дастойны даверу.

Мухамед перажываў вялікую незадаволенасць тымі адмоўнымі з"явамі, якія праяўляліся ў акаляючым яго грамадстве / язычніцтва,

разбэшчанасць, помслівасць, азартныя гульні і шмат іншага /. Усё часцей і часцей ён хадзіў у пячору Хіра, дзе на працягу 5 гадоў правадзіў месяц Рамазан, які тады прыпадаў на сярэдзіну зімы.

На пятым годзе яму упершыню было адкрыццё Джабрыла. Калі Вахі знік, Мухамед вярнуўся дамоў глыбока ўзрушаны перажытым і аб усім расказаў сваей жонцы Хадыджы. Так як ён быў вельмі ўзрушыны, Хадыджа зрабіла ўсё, каб супакоіць яго. Назаўтра яны пайшлі да яе стрыечнага брата Babaki ібн Науфаля, сляпога старога, які прыняў хрысціянства і быў знаўца па пытаннях рэлігіі.

Не паспеў Мухамед скончыць свой расказ, як Варака ўсклікнуў: "Калі ты мовіш праўду, то гэта можна параўнаць з тым, як Закон быў паведаны Майсею. Калі Гасподзь падоўжыць мае дні, то я выступлю ў тваю абарону, калі на цябе будуць ганенні". "Што? -- ўсклікнуў Мухамед --На мяне будзе ганенне за тое, што я гавару аб Усявышнім і яго блаславенні ?!". "Так, -- адказаў Варака. Ні адзін прарок не пазбегнуў ганенняў свайго народу".

Калі памёр дзядзька і апякун Мухамеда Абу Таліб, главой сям"і стаў другі дзядзька Абу Лахаб, які абвясціў Мухамеда па-за законам. Цяпер кожны мог беспакарана забіць Мухамеда.Не маючы другога выйсця, Мухамед пакінуў Мекку і пайшоў у суседні Таіф. Аднак жыхары гэтага паселішча аднесліся да яго яшчэ горш, чым мекканцы. Прарок вярнуўся ў свой горад. Пасля шматлікіх заклікаў і тлумачэнняў невялікая група жыхароў Ясрыба / пазней гэты горад стаў вядомы пад назвай Медына / заявілі аб прыхільнасці да вучэння Мухамеда і пачалі прапаведваць яго ў сваім горадзе. На наступны год з Медыны ў Мекку прыйшло I2 паломнікаў, якія заявілі аб прыхільнасці да новай веры і прынялі Іславу. Дамоў яны вярталіся ў суправаджэнні пасланніка з Меккі Масаба ібн Умайра, якому Прарок даручыў тлумачыць Іслам у Медыне.

Дзейнасць Масаба ібн Умайра мела такі поспех, што на наступны год з Медыны ў Мекку прыбылі дзесяткі людзей, прыняўшых Іслам. Яны прапанавалі Прароку і ўсім мусульманам, якіх праследавлі, пераехаць з імі ў Медыну.

Пасля суровых праследавнняў мусульман у горадзе Мекка, Алах дае дазвол на перасяленне -- хіджру.

Мухамед параіў, каб мусульмане перабіраліся з Меккі ў Медыну невялічкімі групамі, таму што пры масавым выйсці мекканцы маглі перашкодзіць ім. Так маленькімі групамі яны пачалі пакідаць горад. Гэта падзея атрымала назву хіджра і яна абвясціла аб стварэнні незалежнага мусульманскага грамадства і дала пачатак адліку мусульманскага летазлічэння.

Да гэтага мусульмане перажывалі вялікія цяжкасці. Пасля хіджры насталі часы адноснай бяспекі і прагрэсу, што дазволіла заснаваць дзяржаву, усе структуры якой грунтаваліся на прынцыпах Ісламу.

Мухамед быў чалавекам практычнага складу. Таму ён адразу ўзяўся за выхаванне мусульман у духу Кур"ана. Тым самым устанавіліся правілы для мусульман ва ўсіх сферах іх жыццядзейнасці.

Варагуючыя абшчыны не прызнавалі ніякіх правіцеляў і не было ніякіх форм дзяржаўнай улады. Мухамед склікаў прадстаўнікоў усіх абшчын -- мусульман, арабаў-язычнікаў, гэбраяў і хрысціян і прапанаваў стварыць абшчыну. Прапанова была прынята і Мухамед узначаліў аб"яднаную абшчыну / бо мусульман было большасць /.

Першае, што яму трэба было зрабіць -- гэта ўпарадкаваць закон абшчыны. Тэкст законаў, які захаваўся да нашых дзён, з"яўляецца першай вядомай у свеце пісанай канстытуцыі. У ёй вызначаны правы і абавязкі главы дзяржавы, яго грамадзян. Ёсць палажэнні пра та-

кія бакі жыцця, як ваенная справа, правасуддзе, адукацыя, сацыяльнае забеспячэнне і г.д. Адметнай асаблівасцю гэтых законаў з"яўляецца талерантнасць у самым шырокім сэнсе гэтага слова: мусульмане і немусульмане ў роўнай ступені мелі права карыстацца не толькі свабодай веравызнання, але і свабодай перад законам і правасуддзем. Мусульманскае права не прымянялася да немусульманаў ні ў грамадзянскіх, ні ў крымінальных справах.

Затым Мухамед узяўся за арганізацыю мусульманскай абшчыны -- дзяржавы, заключыўшы шэраг абарончых саюзаў з суседнімі плямёнамі. Умацаваўшы такім чынам сваё палажэнне, ён забараніў меккан - скім караванам, якія накіроўваліся ў Сірыю, Егіпет ці Ірак праходзіць праз зямлю Ісламскай дзяржавы.

Значная перамога ў бітве пры Бадры / у 2 год хіджры / была атрымана 300 мусульманамі, якія змагаліся супраць 950 язычнікаў-мекканцаў. Перамога мусульман адмоўна адбілася на эканамічным палажэнні Меккі. Пры гэтым Мухамед вялікадушна прапанаваў мекканцам заключыць перамір"е.

Пасля прымірэння мусульман з Меккай у Мухамеда былі развязаны рукі ў адносінах з Візантыйскай імперыяй, якая без ваганняў казніла паслоў Мухамеда, а таксама сваіх падданых, калі яны прымалі Іслам. Ён таксама змог удзяліць больш увагі астатняй частцы Аравійскага паўвострава, адкуль у Медыну прыбывалі дзесяткі пасланцоў, прымаўшых Іслам. Да моманту смерці Прарока / хай будзе благаслаўлёны Алахам / увесь Аравійскі паўвостраў, а таксама некаторыя раёны Палестыны і Ірака ўваходзілі ў Ісламскую дзяржаву. Узнікшая ў першы год хіджры ў адным з раёнаў Медыны, яна пашырылася на тэрыторыю 3 млн. км$^2$ і мела ўласныя фінансы, навучальныя, ваенныя, адміністрацыйныя і прававыя ўстановы, неабходныя для незалежнага існавання і развіцця.

## ЗАЛАТАЯ АРДА -- ДЭШТ-І-КЫПЧАК

Гэта магутная ў XШ -- XIУ стагоддзях дзяржава вядома таксама пад назвай Улус Джучы, Блакітная Арда. Узнікла на пачатку 40-х гадоў XШ ст. ў заходняй частцы тэрыторыі імперыі Чынгізхана. Заснавана ўнукам Чынгізхана -- Бату-ханам. Залатая Арда спачатку ўключала тэрыторыі ад Іртыша да Урала. Усходняя частка ўлуса Джучы / Заходняя Сібір / атрымала назву Блакітнай Арды. Бату-хан у выніку паходаў I236 -- I240 далучыў да сваіх уладанняў Паволжа, кыпчацкія стэпы, Паўночны Каўказ, Крым, Харэзм, пакарыў рускія княствы.

Спачатку Залатая Арда была часткаю / адным з трох улусаў / імперыі Чынгізхана. Але ў 70-я гады XШ ст. яна фактычна незалежная ад вялікага хана. У канцы XШ -- пачатку XIУ ст. хан Залатой Арды прыняў Іслам і не стаў прызнаваць вярхоўнай улады вялікага мангольскага хана. Улада залатаардынскіх ханаў пашырылася на заваяваную тэрыторыю ад Фінскага заліва і нізін Дуная на захадзе да Іртыша і нізін Обі на ўсходзе, ад Чорнага, Каспійскага, Аральскага мораў і возера Балхаш на поўдні да Наўгародскіх зямель на поўначы.

Першапачатковай сталіцай Залатой Арды быў пабудаваны ў I254 г. на Волзе горад Сарай-Бату / каля сучаснай Астрахані /, а з I-й палавіны XIУ ст. -- горад Сарай-Берке / каля сучаснага Валгаграда /. Аб пераўтварэнні Залатой Арды ў самастойную дзяржаву сведчыць чаканка манеты з імем Менгу-Цімура / I266 -- 82 / -- унука Бату-хана.

Пасля смерці Менгу-Цімура ў Залатой Ардзе разгарэлася міжусобная вайна, у якой перамогу атрымала частка арыстакратыі мусульманскага веравызнання. Яна вылучыла на ханскі трон унука Менгу-Цімура -- Узбека / I3I3 -- 42 /.

Пры Узбеку і яго сыне Джанібеку / 1343 — 57 / Залатая Арда стала адной з найбольшых дзяржаў сярэднявечча. На працягу 45-гадовага праўлення Узбек і Джанібек цвёрда трымалі ўладу ў сваіх руках, бязлітасна душылі любое праяўленне самастойнасці сваіх васалаў. Царэвічы шматлікіх улусаў выконвалі ўсе іх загады. Армія Залатой Арды ў часы Узбека і Джанібека налічвала каля 300 тыс. воінаў.

У выніку прыдворных змоў і смутаў у канцы 50-х гадоў былі забіты многія царэвічы з роду Узбека. Пасля забойства Джанібека / 1357 / на працягу 1375 — 1380 гадоў на троне пабывалі 25 ханаў.

У выніку феадальнага драблення ў 70-х гадах XIУ ст. Залатая Арда фактычна падзялілася на дзве часткі: у раёнах на захад ад Волгі правіў цемнік Мамай, ва ўсходніх раёнах — Урус-хан. Унутранае бязладдзе выкарысталі маскоўскія князі. Вайна з Масквой прынесла паражэнне Мамаю на Куліковым полі / 1380 /. Часовае аднаўленне адзінства Залатой Арды адбылося пры хане Тахтамышы, які ў 1380 г. разбіў Мамая на р.Калка, а праз два гады / 1382 / заняў і спаліў Маскву. Але і гэта адзінства мела ілюзорны характар. Тахтамыш фактычна аказаўся ў залежнасці ад Цімура і яго заваёўніцкіх планаў. Разгром Цімурам войск Тахтамыша ў 1391 і 1395 гадах, разрабаванне Сарая былі канцом палітычнага адзінства Залатой Арды. Апошнюю спробу аб"яднаць Залатую Арду зрабіў Едыгей / памёр у 1419 г. /.

Складаныя працэсы феадальнага драблення ў другой палавіне ХУ ст. прывялі да распаду Залатой Арды на Казанскае і Астраханскае ханствы, Нагайскую Арду, уласна Вялікую / Заволжскую / Арду і Крымскае ханства.

Паяўленне ў складзе насельніцтва Беларусі цюркска-татарскага насельніцтва стала вынікам безупынных і разнастайных зносін

Вялікага княства Літоўскага / ВКЛ / з Залатой Ардой. На працягу XIII ст. войскі залатаардынскіх ханаў пастаянна наведвалі Беларусь Сярод гарадоў, разбураных татарамі ў 40-я гады XIII ст., называюцца Слонім і Наваградак, якія мелі вялікае значэнне ў перыяд узнікнення беларуска-літоўскай дзяржавы. Атрады цемніка Нагая паміж I280 і I288 гг. пабывалі ў Бярэсці, Наваградку і Гародні.

Устанаўленне ўлады Гедымінавічаў над землямі сучаснай Беларусі дазволіла ім разам пазбегнуць ардынскага ярма. Задоўга да Масквы / чые феадалы доўгі час былі вернымі васаламі і слугамі Чынгізідаў / літоўская дынастыя кінула смелы выклік Залатой Ардзе. Менавіта Вільня на доўгія дзесяцігоддзі стала асноўным цэнтрам "збірання" рускіх земляў. Разгром Альгердам ардынцаў у бітве ля Сініх Водаў / I362 / дазволіў пашырыць уладанні ВКЛ на поўдні да вусця Дняпра і Днястра, устанавіць уладу Гедымінавічаў над Кіеўскім і Валынскім княствамі, Падоліяй, Чарнігаўшчынай і Северщчынай. Альгерду — за два дзесяцігоддзі да Куліковскай бітвы — удалося нанесці першае буйное паражэнне, якое мела не толькі тактычнае, але і стртэгічнае значэнне: страту Ардою кантролю над значнымі тэрыторыямі, якія складалі некалі ядро Кіеўскай Русі.

Узаемаадносіны ВКЛ і Залатой Арды не былі ўвесь час толькі варожымі. Ім здаралася заключаць саюзы супроць агульных працўнікаў. Вялікі князь Гедымін, Вітаўт і інш. запрашалі татар з Залатой Арды, выкарыстоўвалі іх у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Татары ўдзельнічалі ў вайне Гедыміна з крыжакамі яшчэ ў I3I9 г. У I350 г. ардынскія атрады ўдзельнічалі ў паходзе вялікага князя Кейстута ў Польшчу і г.д.

На Беларусі знаходзілі прытулак збеглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі трон у Залатой Ардзе. Пра гэта паведамляюць арабскія гісторыкі. Рукнедзін Бейбарса ў сваім летапісе піша: "У тым го-

дзе / 701 хіджры, г.з. 1301 -- 1302 гг. / уцёк Каракісек, сын Джэкі і сын Нагая. Разам з ім уцяклі сваякі яго -- Джэрыкцемір і Юлукту. Здарылася гэта так. Калі Такта забіў брата свайго Сарайбугу і сына Нагая -- Турая / за мяцеж супраць хана /, ён... загадаў прывесці да яго Каракісека. Тады Каракісек з двума сваякамі уцёк. Трапілі яны у краіну Шышымен, у мясцовасць Будуль, што недалёка ад Кракава. Разам з імі было і 3000 воінаў. Усе яны засталіся у Шышымене, пераязджалі з месца на месца і здабывалі сабе ежу мячамі сваімі да нашага часу" / В.Тызенгаўзен. Зборнік матэрыялаў, якія адносяцца да гісторыі Залатой Арды. Т.І.Спб. 1884. С.119 /.

У сакавіку 1395 г. на Беларусь пасля паражэння ад Цімура адступіў вялікі хан Тахтамыш са сваёй дружынай. Гасцінна прыняты Вітаўтам, ён пасяліўся у Лідзе. Тут хан жыў у асобным доме, які захаваў надоўга назву Тахтамышава двара. К гэтаму часу ВКЛ здабыло славу надзейнага прыстанішча для выгнанцаў / вядома, напрыклад, што група мурзаў на чале з Мансурам Кіятам Мамаевічам эміграваліа у ВКЛ пасля бітвы на Куліковым полі. Лекса Мансуравіч хутка атрымаў велізарныя воласці / Глінск, Палтава / на усход ад Дняпра і даў пачатак роду Глінскіх.

Вітаут адразу ацаніў новыя магчымасці, што узніклі у выніку паяўлення у яго дзяржаве звергнутага ардынскага уладара, які шукаў дапамогі, каб вярнуцца на трон. Паводле летапісу Вітаут гаварыў: "Пасадзім у Ардзе на царства ... Тахтамыша ... і тое усё будзе наша, і мы не толькі Літоўскай зямлёю і Польскай валодаць будзем, але і усімі вялікімі княствамі рускімі".

Прыведзеныя словы вельмі выразна і дакладна перадаюць планы і намер вялікага князя: зрабіць Тахтамыша сродкам сваёй палітыкі, з яго дапамогаю дамагчыся, у прыватнасці, кантролю над Вя-

лікім Уладзімірскім княствам / якое яшчэ лічылася васалам Арды /, мажліва, і іншых знешнепалітычных задач. Атрымаўшы ў асобе Тахтамыша законнага прэтэндэнта на ханскі трон, Вітаўт пачаў дзейнічаць. У выніку паспяховага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў / 1397 / у рукі пераможцаў трапіла багатая здабыча і шмат ваеннапалонных татараў, якія былі паселены каля Вільні, у Лідскім, Ашмянскім, Наваградскім і Берасцейскім паветах (атрымалі права грамадзянства). Другі паход Вітаўта і Тахтамыша супраць ардынцаў / 1399 / завяршыўся паражэннем іх войска на берагах р.Ворскла. Вітаўту пашчасціла уцячы "у малой дружыне ... коней пераменяючы". Уцёк і Тахтамыш. Ён апынуўся ў Сібіры, спрабаваў самастойна захапіць ханскі трон, але быў забіты. Кантакты з Залатой Ардой захоўваліся, і нашчадкі Тахтамыша працягвалі лічыць Літву магчымай саюзніцай у барацьбе за адраджэнне сваёй улады над "Улусам Джучы". У 1409 г. да Вітаўта прыбыў са сваім атрадам сын Тахтамыша царэвіч Джалал-эд-Дзін, які прыняў удзел у Грунвальдскай бітве /1410/ супраць Тэўтонскага ордэна. У ордэнскіх хроніках адзначаецца, што галоўнакамандуючы ордэнскім войскам вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген загінуў у бітве ад рукі татарскага хана Багардзіна.

Пасля Грунвальда татары ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях да падпісання перамір"я з ордэнам у 1411 г. Летам гэтага ж года пры падтрымцы Вітаўта Джалал-эд-Дзін падпарадкаваў сваёй уладзе Крым. Зімою 1412 г. ён захапіў трон у Залатой Ардзе, але ўжо ў жніўні 1412 г. эмір Эдыгей / даўні вораг Вітаўта / арганізаваў забойства Джалал-эд-Дзіна і ўзвёў на трон брата яго Керым Берды. Не жадаючы зміръіцца з гэтым, Вітаўт вылучыў новага кандыдата, у 1413 г. у Вільні ханам Залатой Арды быў урачыста абвешчаны малодшы сын Тахтамыша — Бетсуб-хан. Упершыню ў гісторыі Залатой Арды яе правіцель быў каранаваны ў літоўскай сталіцы, па волі вялікага князя прыняў жанскую шапку з яго рук.

Бетсуб-хан разам са сваім атрадам прымаў удзел у вайне з ордэнам, а ў канцы 1414 г. адправіўся ў паход на Залатую Арду. Але экспедыцыя прэтэндэнта пасля першых поспехаў / яго падтрымалі некаторыя улусы / закончылася няўдала. Яго саюзнікам прыйшлося уцякаць у Літву, а сам Бетсуб-хан загінуў у сутычцы з войскамі Эдыгея. Адносіны ВКЛ з Ардою зноў абвастрыліся. У 1416 г. войскі Эдыгея спустошылі землі Украіны, захапілі Кіеў.

Тым часам Вітаўт выставіў новага кандыдата на ханскі трон -- сына Тахтамыша -- Ерымфердэна. Ён таксама быў каранаваны ў Літве і на кароткі час захапіў уладу ў Ардзе. Керым Берды быў забіты, але Эдыгей узвёў на трон новага кандыдата -- Дэрвішхана, скінуўшы Ерымфердэна. Але ў 1420 г. саюзнікі Вітаўта -- мурзы улуса Шырын здзейснілі новы пераварот. Дэрвіш-хан і Эдыгей былі забіты. У 1422 г. сталіца Залатой Арды Сарай дасталася прыхільніку Літвы -- хану Даулет Берды. Але вялікі князь літоўскі пасварыўся з ім і хан вымушаны быў шукаць схаванкі ў Крыме, спрабуючы пасля дабіцца ад магутнейшага уладара падтрымкі. З прэтэнзіямі на трон выступіў Улуг Мухамед, сын Джалал-эд-Дзіна. У 1423 г. ён шукаў прытулку ў Вітаўта. Дабіўшыся ў 1424 г. улады пры падтрымцы Вітаўта ён вёў жорсткую барацьбу з іншымі прэтэндэнтамі / у 1425 г. на уладу ў Залатой Ардзе адначасова прэтэндавалі шэсць ханаў / і толькі ў 1429 г. устанавіў сваю уладу над усёй Залатой Ардой.

У 1433 Улуг Мухамед падтрымаў князя Баляслава Свідрыгайлу, прэтэндэнта на літоўскі трон, але вясною выслаў свае атрады на дапамогу яго саперніку -- брату Вітаўта князю Жыгімонту Кейстутавічу. Свідрыгайла ў сваю чаргу падтрымаў саперніка Улуг Мухамеда -- Кічы Махмеда. Урэшце рэшт трон у Ардзе дастаўся трэцяму іх праціўніку -- Саід Ахмеду, а Улуг Мухамед у 1437 г. зноў апынуўся ў ВКЛ і быў паселены са сваімі татарамі на Се-

вершыне. Адтуль, між іншым, ён хутка перасяліуся у Ніжні Ноугарад, пасля у Казань і стау заснавальнікам тамтэйшай ханскай дынасты і. Адзін з яго сыноу стау першым ханам васальнага ад Масквы Касімаускага царства.

Сеід Ахмед прыймау актыуны удзел у грамадзянскай вайне у ВКЛ, падтрымліваючы Свідрыгайлу, а пасля сына Жыгімонта Кейстутавіча -- Міхаіла. Тады новы вялікі князь Казімір Ягайлавіч і яго саветнікі падтрымалі другога праціуніка Саід Ахмеда -- Хаджы Гірэя. Пры падтрымцы войск ВКЛ / узначальвау Радзівіл / і князёу шырынскіх ён захапіу Крым і стау заснавальнікам дынастыі Гірэяу. Дарэчы, легенда, запісаная у ХУІ ст., сведчыць, што гэты хан нават нарадзіуся у Троках / цяпер Тракай/, што магло быць і праудай.

У 1455 г. пасля разгрому войска Сеід Гірэя Хаджы Гірэем -- стауленікам ВКЛ -- Сеід Гірэй уцёк у Кіеу. Хутка ён быу перавезены у Вільню, пазней паселены у Ковенскім замку, дзе і памёр.

Пацярпеушы паражэнне у барацьбе за крымскі трон у 1478 г. уцяклі у ВКЛ сыны Хаджы Гірэя -- Даулет і Айдар, але ужо у пачатку 1480 г. яны з"ехалі у Маскву. У 1502 г. пасля разгрому войска Вялікай Арды крымскім ханам Менглі Гірэем, апошні хан Вялікай Арды Шэйх Ахмед / Шах-Ахмат / з братамі Хаджы-султанам і Халек-султанам, сынамі і прыдворнымі схаваліся у ВКЛ. Тут ён знаходзіуся на палажэнні ганаровага палонніка, але тытулавауся "царом Заволжскім" і супрваджау Жыгімонта І у некаторых урачыстых выхадах. Толькі вясною 1527 г. па просьбе нагайскіх татарау ён быу адпушчаны у Арду. Такім чынам, палітыка Вітаута у адносінах да Залатой Арды мела на мэце з аднаго боку замацаваць бяспеку граніц, а з другога -- набыць саюзнікау, выкарыстаць татарскае войска для барацьбы з маскоускімі князямі. Гэту палітыку уасноуным працягвалі і вялікія князі Вялікага княства Літоускага пасля Вітаута.

## НЕВЯДОМАЕ АБ ВЯДОМЫМ

Праглядаючы старыя паперы мне трапілася цікавая кніга Фелікса Зыгмунта Верамея "Польшча сёння і заўтра", якая надрукавана ў Варшаве ў выдавецтве "Наша ксянгарня" у 1979 г. На староны 170-й пачынаецца артыкул "Гайналіца і гейнал". Змяшчаем ксеракопію часткі артыкула і пераклад для тых, хто не чытае на польскай мове.

HAJNALICA I HEJNAŁ

Codziennie w całej Polsce o godzinie 12.00 można usłyszeć przez radio transmitowany z Krakowa Hejnał Mariacki. Lubimy tę melodię i chętnie jej słuchamy, ale warto wiedzieć, że hejnał ten jest również jednym z wielu najstarszych krakowskich zabytków. Legenda utrzymuje, że grano go od XII w., a w 1241 r., gdy Tatarzy oblegali Kraków, strzała tatarska trafiła w krtań trębacza i dlatego melodia nagle się urywa. Według znawców przedmiotu, legenda o tatarskiej strzale powstała znacznie później, początki hejnału natomiast ściśle związane są z dziejami kościoła Mariackiego i z inną legendą.

Hejnał zawsze odgrywano z wyższej wieży kościoła Mariackiego. Dlaczego jego wieże nie są jednakowej wysokości? Otóż mieli je budować dwaj bracia — murarze. Jeden był uczciwym mistrzem, a drugi partaczem. Uczciwy położył pod swoją wieżę solidne fundamenty, a partacz o wiele słabsze. Gdy partacz uświadomił sobie, że jego brat będzie mógł na swoich fundamentach zbudować wyższą wieżę, wpadł w złość, wywołał brata nad Wisłę, przebił go nożem i wrzucił do rzeki. Kiedy kościół był gotowy, partacz stanął na wyższej wieży, zebranemu tłumowi opowiedział o bratobójstwie i o dręczącym go sumieniu, a potem wbił sobie w pierś ten sam nóż i runął z wysokości na Krakowski Rynek. Nóż bratobójcy zawieszono w Sukiennicach, gdzie do dzisiaj znajduje się jego kopia. Miał on odstraszać złoczyńców od niecnych zamiarów.

"Штодзень ва ўсёй Польшчы а 12.00 можна пачуць па радыё трансляцыю Мар"яцкага гэйнала / гэта венгерскае слова азначае золак, песня абуджэння, чуйнасць -- заўвага рэд. /. Любім гэту мелодыю і ахвотна яе слухаем, але трэба памятаць, што гэты гэйнал з"яўляецца таксама адным з найстарэйшых кракаўскіх помнікаў. Легенда даносіць, што выконваўся ён з XII ст., а ў 1241 г., ў час татарскай аблогі Кракава, татарская страла трапіла ў горла трубачу і таму

мелодыя раптоуна перарываецца.

Паводле знаупау гісторыі легенда пра татарскую стралу узнікла значна пазней. Пачатак гейналу цесна звязаны з гісторыяй Мар"яцкага касцёла з іншай легендай.

Гейнал заусёды гралі з больш высокай вежы Мар"яцкага касцёла. Чаму яго вежы рознай вышыні ? Будавалі іх два браты-муляры. Адзін быу сумленны майстар, а другі партач. Сумленны паклау пад сваю вежу грунтоуны фундамант, а партач намнога слабейшы. Калі ж партач зразумеу, што яго брат зможа на сваім фундаманце пабудаваць вышэйшую вежу, раззлавауся, выклікау брата да Віслы, забіу яго ударам нажа і укінуу цела у раку.

Калі касцёл быу ужо пабудаваны, партач паднякся на вышэйшую вежу і натоупу людзей, які сабрауся каля касцёла, расказау аб тым, што замардавау брата і пра тое, што яго дрэнчыць сумленне. Апасля усадзіу сабе у грудзі гэты самы нож і рынууся з вышыні на Кракаускі Рынак. Нож братазабойцы выставілі у Сукенніцах, дзе і сёння знаходзіцца яго копія. Ён павінен быу адстрашваць магчымых злачынцау ад іх ганебных намерау".

## З ГІСТОРЫІ ПАСЕЛІШЧАУ ТАТАР У БЕЛАРУСІ

/ Артыкул доктара гістарычных навук, прафесара А.П.Грыцкевіча, надрукаваны у "Весцях АН БССР", № 6, за 1981 перадрукаваны з дазволу аутара. Выказваем яму за гэта шчырую падзяку. /

Этнічныя працэсы, якія адбываліся ва Усходняй Еўропе перыяду феадалізму, яшчэ недастаткова вывучаны. Яны прыцягваюць усё большую ўвагу даследчыкаў, бо дазваляюць асвятліць не толькі палітычныя, але і этнічныя сувязі народаў. Немалы інтарэс уяўляе вывучэнне асаблівасцей развіцця такой этнічнай групы, як беларускія татары. Трэба заўважыць, што ў дарэвалюцыйнай літаратуры ўжываўся тэрмін «літоўскія татары». Гэты тэрмін паходзіць ад назвы дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, у якім з канца XIV ст. сяліліся татары. У трох невялікіх артыкулах, выдадзеных у БССР, ужываецца правільны з этнаграфічнага пункту гледжання тэрмін «беларускія татары».

Спецыяльных прац пра беларускіх татар у літаратуры мала. Яны закранаюць асобныя бакі гісторыі і жыцця татар у Беларусі [1]. З гэтых прац трэба вылучыць манаграфію С. Крычынскага, у якой аўтар ахапіў значнае кола пытанняў. Аднак у гэтай манаграфіі не адлюстраваны жыццё і побыт беларускіх татар на тэрыторыі БССР, разглядаецца гісторыя галоўным чынам татар-феадалаў.

У дадзеным артыкуле на аснове літаратурных даных, звестак з апублікаваных і неапублікаваных крыніц, у тым ліку матэрыялаў магнацкіх архіваў, зроблена спроба асвятліць гісторыю паселішчаў беларускіх татар, іх сацыяльна-эканамічнае становішча і культуру.

У XIV—XVI стст. у перыяд існавання Залатой Арды і пасля яе распаду адбывалася фарміраванне асобных цюркамоўных народнасцей пад агульнай назвай — татары. Розныя гістарычныя ўмовы, складванне асобных феадальных дзяржаў прывялі да выдзялення асобных татарскіх народнасцей. Да найбольш буйных з іх належалі казанскія, астраханскія, сібірскія, крымскія, касімаўскія татары. Пры фарміраванні гэтыя народнасці ўключалі ў свой склад іншыя этнічныя групы.

Гістарычныя і палітычныя ўмовы, у якіх адбываліся фарміраванне і развіццё гэтых татарскіх народнасцей, акрэслівалі і развіццё іх мовы і культуры, якія мелі пэўныя адрозненні ў розных татарскіх народнасцей. У працэсе ўзаемадзеяння народаў Усходняй Еўропы, як лічыць рад савецкіх даследчыкаў, у тым ліку і беларускія (М. Я. Грынблат), склалася яшчэ адна татарская народнасць. Гэта так званыя літоўскія, або беларускія, татары [2]. Іх продкі перасяляліся ў канцы XIV — пачатку XV ст. з Залатой Арды і Крыма ў Літву і Беларусь у раёны Трок, Вільні, Коўна, Ліды, Крэва, Навагрудка, Гродна. Утварэнне Вітаўтам паселішч ваеннаслужылых татар («людзей рыцарскіх») паблізу граніц з Тэўтонскім Ордэнам мела ваенна-палітычныя мэты. У часы праўлення Вітаўта ў войску Вялікага княства Літоўскага было некалькі татарскіх атрадаў. У Вільні, Троках (па-цюркску Турк), Навагрудку (Еві-Шэхір), сяле Сорак-Татары (Кырк-Татар) былі пабудаваны мячэці. Новыя пасяленцы ў 20-х гадах XV ст. з Крыма былі таксама прыняты ў Вялікім княстве Літоўскім.

Частка татарскіх пасяленцаў запрашалася вялікімі князямі літоўскімі з Арды на ваенную службу. Некаторыя з іх беглі сюды, ратуючыся ад паагалоўнага знішчэння ў час міжусобіц у Арадзе ці Крыме, і таксама прымаліся на ваенную службу. Меншую частку беларускіх татар складалі ваеннапалонныя. Апошняя буйная група крымскіх татар з ліку ваеннапалонных была пасялена на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны ў пачатку XVI ст.[3] Узятыя ў палон у бітве 1506 г. пад Клецкам крымскія татары былі пасялены ў Мінску (Татарскі канец, цяпер раён гасцініцы «Юбілейнай»), Клецку (Татарская слабада) і навакольных мястэчках. Частку палонных пасялілі ў даўніх татарскіх сёлах.

Беларускія татары ў асноўным паходзілі з Залатой Арды і Крым-

скага ханства, якое канчаткова ўтварылася ў 40-х гадах XV ст., калі распалася Залатая Арда. У Залатой Ардзе ў XIII—XV стст. адбылася некаторая нівеліроўка мовы і культуры цюркамоўных плямён. У той жа час у XV—XVI стст. яшчэ існавалі прыкметныя адрозненні паміж першымі групамі татар-пасяленцаў у Беларусі і крымскімі.

Яшчэ ў 1239 г. татара-манголы захапілі стэпавую частку Крыма і пакарылі мясцовае насельніцтва (аланаў, грэкаў, полаўцаў, славян, армян). У XIV ст. тут узмацніўся ўплыў буйных феадальных родаў Шырын, Барын, Аргын і Кыпчак. У 30—40-х гадах XVI ст. у Крыме ўзвысіліся роды — Мангыт (або Мансур) і Седжэут, а таксама Яшлаў[4]. Некаторыя прадстаўнікі гэтых родаў у выніку міжусобіц збеглі ў Вялікае княства Літоўскае, дзе з канца XIV ст. знаходзілі прыстанішча прэтэндэнты на ханскі трон. Вялікі князь літоўскі Вітаўт у Троках і Вільні не раз праводзіў цырамоніі абвяшчэння ханаў і адпраўляў іх з ваеннай дапамогай або на трон Залатой Арды, або ў суседні Крым. Для супраціўлення ворагу Вялікага княства Літоўскага хану Вялікай Арды Саіду Ахмеду былы крымскі хан (1433—1434) Хаджы-Гірэй, выгнаны з Крыма Саідам Ахмедам, быў у 1443 г. абвешчаны ў Троках крымскім ханам і зноў пасаджаны на крымскі трон, але праз два гады зноў пазбаўлены яго. Урэшце з дапамогай вялікага князя літоўскага і польскага караля Казіміра Ягелончыка пасля перагавораў з крымскімі феадаламі ў Кіеве ў 1449 г. было дасягнута канчатковае пагадненне аб стварэнні Крымскага ханства на чале з Хаджы-Гірэем — заснавальнікам крымскай ханскай дынастыі[5]. Хаджы-Гірэй быў тады прыхільнікам Казіміра. Ён нарадзіўся ў татарскім паселішчы каля Трок.

Крымскія татары склаліся як народнасць з цюрак і атурэчанага насельніцтва паўднёвай часткі Крымскага паўвострава. Яны размаўлялі на стэпавых дыялектах крымска-татарскай мовы, якія належалі да кыпчакскай групы цюрскіх моў, і на паўднёвакрымскіх дыялектах крымска-татарскай мовы (з агузскай групы цюркскіх моў), блізкіх да моў турак і азербайджанцаў. На Беларусь прыбывалі ў асноўным стэпавыя татары, якія размаўлялі на блізкай да ардынскіх татар мове з кыпчакскай групы цюркскіх моў.

Татары прыбывалі і сяліліся ў Беларусі часцей за ўсё згуртаванымі родаплемяннымі групамі (улусамі), што ў XVI ст. уплывала на іх ваенна-адміністрацыйны лад. Усе ваеннаслужылыя татары падзяляліся на харугвы (тыя ж племянныя улусы), а ў ваенных адносінах — на «сцягі», якія ўяўлялі сабою атрады. Гэтыя атрады тэрытарыяльна прымыкалі да атрадаў шляхецкага апалчэння таго ваяводства, дзе жылі татары гэтага «сцяга». Часта харугвы і сцягі супадалі. Трэба заўважыць, што татарскія перасяленцы на Беларусі сяліліся ў розных паветах неадначасова, таму іх племянныя улусы не займалі аднаго толькі пэўнага павета.

У люстрацыі татар Вялікага княства Літоўскага 1631 г. нагадвалася пра іх ранейшую ваенна-племянную арганізацыю: «усе харугвы татарскія, якія з Арды сваімі фаміліямі ў Вялікае княства Літоўскае прыйшлі». Пад словам «фамілія» мелася на ўвазе родаплемянная група. У гэтай люстрацыі гаворыцца: «Якіх фамілій шэсць і кожная мае сваю харугву: спачатку харугва Уланская, другая Юшынская, трэцяя Найманская, чацвёртая Ялаірская, пятая Кандрацкая, шостая Барынская. Гэтыя фаміліі іх не ўсе адразу, але ў розны час пры продках караля яго міласці з Арды ў Вялікае княства Літоўскае былі прыведзены, аднак

кожная фамілія са сваёй кампаніяй прыйшла...»[6] Племянныя назвы сустракаюцца ў попісе войска Вялікага княства Літоўскага 1567 г. і ў іншых дакументах.

Уланскае харуства складалася з нашчадкаў залатаардынскай знаці (уланаў, агланаў), якія ў Ардзе ўдзельнічалі ў выбарах ханаў і мелі невялікія надзелы. На Беларусі нашчадкі ардынскіх уланаў адрозніваліся па паходжанню ад іншых татар, але з цягам часу сталі шматлікай групай ваеннаслужылых татар. У 1631 г. Уланская харугва налічвала 179 дамоў, галоўным чынам у Ашмянскім (62), Гродзенскім (61) і Віленскім (44) паветах (астатнія 13 дамоў — у Мазырскім, Лідскім, Навагрудскім, Мінскім і Трокскім паветах)[7].

Акрамя Уланскага харуства, якое фарміравалася паводле саслоўнай адзнакі, усе іншыя былі створаны на аснове плямёнаў, якія ўваходзілі ў XIII—XV стст. у склад Залатой Арды. Уйшунскае харуства складалася з племя уйшун (інакш уйсын, усун, юшын), якое ўвайшло ў склад Старэйшага жуза казахаў. Частка гэтага племя знаходзілася ў складзе Букееўскай Арды казахаў, а частка перакачавала ў Крым (каля Карасубазара). У 1631 г. Уйшунскае харуства мела 244 дамы і размяшчалася ў Трокскім, а таксама ў Віленскім і Лідскім паветах. Найманская харугва татар (126 дамоў) адпавядала цюркскаму племені найманаў, якое ў пачатку XIII ст. уваходзіла ў мангольскую дзяржаву. У XIV—XV стст. найманы ўвайшлі ў склад Сярэдняга жуза казахаў і ў склад кіргізаў, узбекаў, а таксама нагайцаў і крымскіх татар. Нашчадкі племя найманаў былі паселены ў Ашмянскім і Віленскім паветах. Татары Найманскай харугвы прыйшлі ў Беларусь пазней за Уйшунскую. Джалаірская харугва (74 дамы ў Віленскім, Навагрудскім і Ашмянскім паветах) прадстаўляла нашчадкаў мангольскага племені джалаір, у склад якога ўліліся розныя цюркскія плямёны і прынялі ў XIII ст. гэту назву. Племя джалаір увайшло ў склад узбекскай народнасці (або жалайыр у складзе Старэйшага жуза казахаў). У склад гэтага племені ўваходзіў таксама род алчын: узбекаў, нагайцаў і крымскіх татар. Услед за выхадцамі з племені джалаір прыйшлі татары з племя кунграт. Кандрацкая харугва (71 дом у Трокскім, Віленскім, Ашмянскім і Мінскім паветах) адпавядала племені канграт (раней мангольскае племя, у склад якога ўвайшлі цюркскія плямёны) у Сярэднім жузе казахаў, кунграт — у ўзбекаў, каракалпакаў і крымскіх татар. Урэшце, племя барын (82 дамы ў Навагрудскім і Мсціслаўскім ваяводствах) было ў крымскіх татар, дзе яго старэйшыя роды лічыліся аднымі з вышэйшых арыстакратычных родаў Крымскага ханства[8]. Племянныя аб'яднанні татар у Вялікім княстве Літоўскім, такім чынам, у пэўнай ступені размяркоўваліся тэрытарыяльна — паводле таго, у якім павеце ў масавым парадку асаджваў іх вялікі князь, пачынаючы з Трокскага павета, дзе раней за ўсіх (у канцы XIV ст.) было паселена племя уйшунаў. Сярод родаплемянных груп татар у Вялікім княстве Літоўскім існавала іерархія, якая сурова вытрымлівалася. Яна грунтавалася на даўнасці пасялення той ці іншай групы ў Вялікім княстве Літоўскім. Таму чарговасць іх захоўвалася пры пераліку харустваў у афіцыйных дакументах: «юшынскае, найманскае, ялаірскае, кандрацкае, барынскае». Апошняя група — барын — прыбыла з Крыма ў канцы XV ст. і была паселена на «пустках» у Мсціслаўскім і Навагрудскім ваяводствах, а таксама ў Лідскім павеце. Разам з тым трэба адзначыць, што ў XVII ст. паселішчы нашчадкаў розных татарскіх плямён ужо размяркоўваліся па розных паветах Беларусі. Гэта азначала, што адбываўся працэс зліцця ўсіх

беларускіх татар у адну народнасць. З другой палавіны XVII ст. племянныя адрозненні знікаюць, захаваўшыся толькі ў асобных выпадках у прозвішчах некаторых беларускіх татар: напрыклад, Кандратовічы, г. зн. нашчадкі племя кандратаў, кунгратаў, Бараноўскія, Туган-Бараноўскія, г. зн. нашчадкі роду Барын.

У сацыяльных, саслоўных і маёмасных адносінах татары ў Беларусі ўжо ў XVI ст. былі неаднародныя. Самай шматлікай па колькасці была група ваеннаслужылых татар, або зямян, якая падзялялася на гаспадарскіх татар, панскіх татар і татар-казакоў [9].

Гаспадарскія татары складалі асобную групу феадальнага саслоўя Вялікага княства Літоўскага. Шляхецтва гаспадарскіх татар прызнавалася законамі і ўладамі дзяржавы. Але і гэтая група была неаднароднай. Яе вярхушку складалі царэвічы і князі (бекі) з ханскага роду Арды ці Крыма, нашчадкі Чынгіз-хана. Тытул царэвічаў насілі прадстаўнікі двух родаў — Астрынскіх (нашчадкі хана Вялікай Арды Ахмата) і Пунскіх (нашчадкі крымскага хана Нур-Даўлета). Даволі значнай была група татарскай арыстакратыі — мурз (крымскіх князёў), найонаў (радавітых феадалаў). Астатнюю частку гаспадарскіх татар складалі небагатыя землеўладальнікі. Да іх прымыкала частка татар-казакоў, якая мела невялікія маёнткі і карысталася шляхецкімі правамі.

Характэрна, што хрысціянская дзяржава прызнавала феадальныя правы за выхадцамі з феадалаў мусульманскай дзяржавы. Саслоўныя правы татарскіх феадалаў, якія перасяліліся ў Вялікае княства Літоўскае, прызнаваліся тут і захоўваліся. У некаторых выпадках, каб прызнаць пачэснае месца за татарскай знаццю, улады Вялікага княства Літоўскага звярталіся за пасведчаннем да татарскіх ханаў. Так, каб разгледзець справу аб першынстве роду князя Абрагіма Тымірчыча і яго братоў над родамі князёў Найманаў-Пятровічаў і Алчынаў, вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч у 1522 г. разглядаў граматы, якія выдалі ў XV ст. крымскі хан Менглі-Гірэй і хан Вялікай Арды Ахмат [10]. У 1533 г. у справе доказу шляхецтва татарына Набіля Нурковіча з віленскага павета (з Крычына) улады звярнуліся да крымскага пасла, які пацвердзіў, што Набіль Нурковіч паходзіць з княжацкага роду Карачы Кыпчак. Вялікі князь Жыгімонт зацвердзіў шляхецтва [11].

Ваеннаслужылыя татары атрымлівалі за сваю службу землі ва ўласнасць з правам распараджэння імі і вызваленнем ад падаткаў і пабораў. У ваеннаслужылых татар былі свае сяляне, цяглыя людзі, а таксама слугі путныя, баяры і баяры панцырныя, якія выходзілі на вайну ў атрадах («почтах») свайго пана, татарына-шляхціца. «Падданыя» татар-феадалаў былі мясцовымі, беларускімі жыхарамі. Так, у 1562 г. у спадчынным маёнтку Крошын (Навагрудскі павет) Усейна Малікбашыча сярод 13 баяраў, 21 цяглага і 2 кунічнікаў было толькі 2 баярынытатарыны; астатнія былі беларусы [12]. Татарам толькі забаранялася мець чэлядзь нявольную. У 1561 і 1568 гг. землеўладальнікі-татары паводле прывілеяў Жыгімонта Аўгуста атрымалі зацвярджэнне шляхецкіх правоў і прывілей нароўні з астатняй шляхтай Вялікага княства Літоўскага. Такія ж каралеўскія прывілеі выдаваліся ў 1576, 1609, 1634, 1677 гг. і ў радзе соймавых канстытуцый.

Нароўні з гаспадарскімі татарамі былі і ваеннаслужылыя «панскія татары», якія жылі ва ўладаннях магнатаў, атрымлівалі ад іх невялікія маёнткі і служылі ў іх ваенных атрадах. Так, у 1592 г. у Станькаўскім маёнтку віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла (Мінскі павет) зна-

ходзіліся двор і сяло Ракошыцы ваеннаслужылага татарына князя Ахмата Гамбатовіча. У дакуменце 1593 г. названы татары маёнтка і замка Маладзечна, які належаў князёўне Барбары Збаражскай. Яны не адрозніваліся ад ардынскай шляхты. Гэта падкрэслівалася ў прывілеі князя Яна Сымона Алелькавіча «татарам Байрасу з таварышамі», якіх ён пасяліў у сяле Рыме (Капыльскае княства) у 1589 г. на зямянскай службе.

З XVII ст. значная частка ваеннаслужылых татар пасялілася ў магнацкіх уладаннях, асабліва ў Радзівілаў і Сапегаў. У 1667 г. у Радзівілаў, клецкіх ардынатаў і ўладальнікаў Давыд-Гарадка, была асобная харугва служылых татар. Але звычайна татары служылі ў магнацкіх харугвах разам з іншай шляхтай, атрымліваючы за службу зямельныя ўчасткі на зямянскім ленным праве. Так, у 1668 г. сярод 100 конных і пешых зямян у Койданаўскім валоданні Б. Радзівіла было 5 конных зямян-татар, а ў зямянскай харугве Слуцкага княства — 52 татарыны [13]. Больш за ўсё татар было ў радзівілаўскіх уладаннях пад Клецкам (сялібы Орда і Асмолава), Нясвіжам, Слуцкам і Мінскам [14].

Ніжэйшую групу ваеннаслужылых татар складалі татары-казакі. Яны маглі быць гаспадарскімі або панскімі. Іх службу складалі паездкі з лістамі, у ваенны час яны ўдзельнічалі ў паходах пад камандаваннем сваіх атаманаў. Частка з іх валодала невялікімі маёнткамі з сялянамі, частка ж вяла сваю гаспадарку без сялян. Вышэйшая катэгорыя татар-казакоў была залічана ў разрад татар-шляхты. Астатнія знаходзіліся на становішчы баяраў і слуг путных. Ваеннаслужылыя татары не плацілі падаткаў.

У час паходаў «паспалітага рушэння» татары-казакі і добраахвотнікі з гарадскіх татар атрымлівалі ад скарбу плату. Ужо ў XVI ст. частка татар-казакоў, якія пражывалі ў сёлах, збяднела і акрамя сельскай гаспадаркі пачала займацца вырабам скур і рамізніцтвам.

Самай беднай групай сярод татар у Беларусі былі тыя, якія жылі ў гарадах і мястэчках. У каралеўскіх прывілеях яны называліся «простымі татарамі» ў адрозненне ад татар-шляхты [15]. Яны паходзілі галоўным чынам з ваеннапалонных, а таксама перасяленцаў, якія на радзіме не былі феадаламі, а вольнымі або феадальна-залежнымі, «ясачнымі» людзьмі. У гарадах і мястэчках ім адводзілася зямля пад сядзібы і агароды, і яны неслі павіннасці, як і мяшчане, плацілі пагалоўны падатак. Ужо ў сярэдзіне XVI ст. іх было даволі многа. Асноўнымі заняткамі татар у гарадах былі рамізніцтва, дубленне скур, выраб саф'яну, агародніцтва, жывёлагадоўля.

Ужо ў XVI ст. пачаўся працэс збяднення беларускіх татар, якія жылі ў сёлах. Працэс гэты працягваўся, у выніку чаго палярызаваліся дзве групы татар — шляхта (і то неаднародная ў маёмасных адносінах) і сельскія і гарадскія татары, якія не мелі шляхецкіх правоў. У апошнюю групу ўвайшлі нашчадкі збяднелых татар-казакоў, што было звязана з драбленнем іх службовых надзелаў.

Працэс сацыяльна-саслоўнай дыферэнцыяцыі знайшоў адлюстраванне ў вопісе войска Вялікага княства Літоўскага 1528 г., у якім на службе гаспадарскай адзначаны 544 татарскія сям'і, у тым ліку князёў і уланаў 121, казакоў 423 сям'і [16]. Многія з іх не мелі феадальна-залежных сялян. У ваенна-адміністрацыйных адносінах ваеннаслужылыя татары складалі асобныя атрады пад сваімі сцягамі і са сваімі харужымі.

У 1528 г. адзначана 8 такіх атрадаў (724 кані), пры гэтым асобна выдзялялі атрад князёў і ўланаў [17].

У другой палавіне XVII ст. асобная татарская адміністрацыя — ваенная (харужыя) і цывільная (маршалкі) знікае: ваеннаслужылыя татары ўвайшлі ў склад павятовай шляхты. У 1631 г. была праведзена рэвізія татар «на земскім праве». Больш за ўсё татарскіх дамоў было ў Трокскім павеце — 225, Віленскім — 169 і Ашмянскім — 135. Менш іх было ў Гродзенскім павеце—68, Навагрудскім—55, Лідскім—40 і Слонімскім — 18. Зусім мала было гаспадарскіх татар у Брэсцкім ваяводстве — 6, у Мазырскім — 4 і Аршанскім павеце — 3 дамы [18], а ўсяго 723 дамы.

Татары жылі ў магнацкіх юрысдыках у гарадах. Так, у XVI—XVII стст. у Мінску ў юрысдыках Радзівілаў і Астрожскіх была свая татарская абшчына на чале з татарскімі войтамі. Такім чынам, яны складалі адасобленую групу насельніцтва са сваім кіраваннем.

Татары пасяліліся і ў прыватнаўладальніцкіх гарадах. У Клецку ў 1757 г. на вуліцы Закасцёльнай пасяліўся адзін татарын, а ў 1791 г. з 280 дамоў у горадзе 10 належала татарам (на вуліцах Слабадзе і Закасцёльнай), у 1801 г. у Клецку на 331 дом прыпадала 9 татарскіх (на вуліцах Татарскай і Слабодскай) [19]. У радзівілаўскім Койданаве 4 татарскія сям'і жылі ў 1660 г. У 1798 г. тут ужо была Татарская вуліца [20]. У 1675, 1687, 1744, 1757 гг. у мястэчку Карэлічы таксама адзначаны татарскія сем'і, якія жылі на Запольнай вуліцы [21]. Такім чынам, засяленне татарамі прыватнаўладальніцкіх гарадоў і мястэчак адзначана ў другой палавіне XVII—XVIII стст.

Павіннасці татар у прыватнаўладальніцкіх гарадах і мястэчках былі такімі ж, як і павіннасці мяшчан. У апісанні павіннасцей Карэліч 1747 г. гаворыцца: «Татары, якія пасяліліся ў мястэчку Карэлічах, плацяць за плацы, якія знаходзяцца пад дамамі і агародамі, з усякага геаметрычнага прэнта... за ворныя палі і сенакосныя маргі... нароўні з мяшчанамі...» [22] Магнацкі скарб выкарыстоўваў іх як замкавых рамеснікаў-гарбароў.

У Міры ў 1688 г. таксама была ўжо Татарская вуліца. І тут татары выконвалі павіннасці нароўні з мяшчанамі, але магнацкі скарб выкарыстоўваў іх і як замкавых рамеснікаў. Яны выконвалі ўсё тую ж павіннасць па вырабу скур для княжацкага двара. Разам з гэтым яны, як і ў Карэлічах і іншых гарадах і мястэчках, займаліся агародніцтвам [23].

У апошняй чвэрці XVII — першай палавіне XVIII ст. частка татар была расселена ў Брэсцкай, Кобрынскай, Гродзенскай каралеўскіх эканоміях і ў лясніцтвах на Падляшшы. Пасля Паўночнай вайны частка татар, якая падтрымала Сапегаў і Станіслава Ляшчынскага, вымушана была эмігрыраваць у Турцыю і асела ў Дабруджы і ў Бесарабіі [24].

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай царскім указам 1799 г. беларускія татары розных саслоўяў захавалі правы, якімі яны карысталіся раней. Татарам-шляхце, якая складала большасць іх, указамі Кацярыны II, Паўла і Аляксандра I былі зацверджаны правы дваранства. Яны былі занесены ў асобныя спісы дваранскіх радаслоўных кніг па губернях. Так, у 1903 г. у Мінскай губерні з 2038 дваранскіх фамілій было 15 та-

тарскіх родаў — Александровічы, Базарэўскія, Багдановічы, Гембіцкія, Карыцкія, Раецкія, Смольскія і інш. У пачатку XX ст. беларускія татары не прызнавалі за сабой назву «татарын»: «мы не татары, а шляхта-мусульмане» [25]. Беларускія татары ў гарадах і мястэчках, якія не мелі дваранскіх правоў, былі залічаны ў саслоўе мяшчан.

У канцы XVIII — першай палавіне XIX ст. адбылася ўнутраная міграцыя татарскага насельніцтва ў Беларусі. Татарскія пасяленні ў вёсках значна скараціліся. Большая частка татар перасялілася ў буйныя гарады і мястэчкі, замацавалася ў Навагрудку, Слоніме, Пінску, Ляхавічах, Іўі, Браславе. З'явіліся пасяленні татар-гарбароў і агароднікаў у Мядзелі, Докшыцах, Глыбокім, Відзах. Такая структура рассялення іх захавалася і ў XX ст.

Знаходзячыся на тэрыторыі Беларусі, татары ўжо да сярэдзіны XVI ст. пад уплывам мясцовага насельніцтва страцілі сваю родную мову, якая належала да кыпчакскай групы цюркскіх моў. У лісце да султана 1558 г. аўтар піша, што яны не могуць гаварыць па-турэцку і арабску, а размаўляюць на дзвюх мясцовых мовах — польскай і беларускай [26]. Але татары ў Беларусі захавалі мусульманскую рэлігію, мелі мячэці і мулаў, хоць каран, малітвы і «кітаб» (збор свяшчэнных паданняў) пісаліся арабскім алфавітам на беларускай, зрэдку на польскай мовах. «Кітабы» («алькітабы») зберагаюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі АН Літоўскай ССР, бібліятэках Ленінградскага, Вільнюскага універсітэтаў, бібліятэцы АН БССР і іншых месцах. У мове беларускія татары захавалі невялікую колькасць арабскіх, персідскіх і татарскіх слоў. Беларускія татары захавалі некаторыя асаблівасці ў гаспадарчай дзейнасці і матэрыяльнай культуры. Яны атаясамлівалі сябе як адзіную этнічную супольнасць ужо ў XVIII ст. У пачатку XX ст. татары-памешчыкі і дваране ў Беларусі размаўлялі і маліліся на рускай, беларускай і польскай мовах; простыя земляробы — па-беларуску.

Беларускія татары мелі толькі па адной жонцы. Мнагажонства ў іх не было ўжо ў XVI ст. Нярэдка яны жаніліся на хрысціянках, але дзеці ад такога шлюбу былі мусульманамі. З XVI ст. пад уплывам мясцовых звычаяў у іх з'явіліся прозвішчы [27] (у адрозненне ад татар Крымскага ханства). Як правіла, яны жаніліся ў сваім асяроддзі і захоўвалі да XX ст. рысы замкнёнай рэлігійна-этнічнай абшчыны, а таксама некаторыя этнаграфічныя асаблівасці.

Беларускія татары былі мусульманамі-сунітамі. У 1857 г. яны мелі 9 мячэцей у Мінскай губерні — у Мінску, Навагрудку, Міры, Клецку, Ляхавічах, Смілавічах, Уздзе, вёсках Асмолаве (Слуцкі павет) і Лоўчыцы (Навагрудскі павет). 8 мулоў з мясцовых татар падпарадкоўваліся муфтыю ў Крыме (як і ў перыяд іспавання Крымскага ханства). У 1857 г. у Гродзенскай губерні было 3, а ў Віленскай — 6 мячэцей. Некаторая частка беларускіх татар з XVI да XX ст. перайшла ў праваслаўе і каталіцызм і асімілявалася.

Колькасць беларускіх татар у XIX—XX стст. невялікая. У 1857 г. іх было ў Мінскай губерні 2231, у Віленскай — 2354 чалавекі [28], у 20—30-х гадах XX ст. іх налічвалася больш за 9 тысяч, з іх на тэрыторыі БССР у 1926 г.— 3777 чалавек [29], у Заходняй Беларусі, Віленскай вобласці і Падляшшы ў 1935 г.— 5425 чалавек [30]. Найбольш буйныя пасяленні былі ў Мінску — каля 300 сем'яў, Іўі — звыш 100, Слоніме — 70,

Ляхавічах — 50, Навагрудку — каля 30 сем'яў[31]. Паводле даных перапісу насельніцтва 1926 г., на тэрыторыі БССР больш за 100 татар жыло ў Мінску, Смілавічах, Уздзе і Капылі[32]. У 1959 г. у БССР налічвалася 8654 татары, а ў 1970 г. — 10031 чалавек, у тым ліку ў гарадах — 8421 (у гэты лік уваходзяць і татары, якія пераехалі з іншых мясцовасцей СССР). Паводле перапісу 1970 г., выдзяляюцца татары ў Мінску — 2182 чалавекі, Гродзенскай вобласці — 2086 (у тым ліку гарадскога насельніцтва — 1762), Мінскай вобласці — 1906 (у гарадах — 1461), Віцебскай — 1544 (у гарадах — 1136), Брэсцкай вобласці — 841 чалавек (у гарадах — 650)[33]. Этнаграфічныя адрозненні паміж татарамі і навакольным насельніцтвам у Беларусі практычна зніклі ўжо ў другой палавіне XX ст.

Такім чынам, татары Залатой Арды і крымскія татары прынялі ўдзел у этнагенезе яшчэ адной татарскай народнасці — літоўскіх (або беларускіх) татар (хоць яны і жылі на Беларусі дысперсна, як і іншыя малыя народнасці — яўрэі, цыганы), якія ў асноўным знаходзіліся на ваеннай службе Вялікага княства Літоўскага і магнатаў Беларусі і Літвы. Беларускія татары да XX ст. захавалі свае этнічныя, саслоўныя і этнаграфічныя асаблівасці, хоць хутка страцілі сваю мову, перайшоўшы на беларускую і польскую. Беларускія татары паступова ўспрынялі мову і многія рысы матэрыяльнага побыту і культуры беларусаў. Яны падзялілі гістарычны лёс беларускага народа, унеслі свой уклад у развіццё культуры і эканомікі Беларусі. Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў сувязі з развіццём сацыялістычнай культуры і збліжэннем нацый у СССР этнаграфічныя адрозненні паміж беларускімі татарамі і навакольным насельніцтвам амаль цалкам зніклі.

## Резюме

В статье на основе литературных данных, сведений из опубликованных и неопубликованных источников, в том числе материалов магнатских архивов, освещаются основные этапы истории переселения татар в Белоруссию, их социально-экономическое положение, вопросы социальной структуры, определенные особенности быта и языка, адаптации к местным условиям. Белорусские татары в XV—XVI вв. сформировались на основе двух групп переселенцев — ордынских и крымских татар. Уже в XVI в. они утратили свой язык и восприняли белорусский, оставшись мусульманами. Во второй половине XX в. этнографические различия между белорусскими татарами и окружающим населением ...ти полностью исчезли.

[1] Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар.— СПб., 1857; Muchliński A. Zdanie sprawy o tatarach litewskich.— Teka Wileńska, Wilno, 1858, № 4—6; Добрянский Ф. Предисловие.— Акты Виленской археографической комиссии, т. XXXI.— Вильна, 1906, с. XV—X; Александрович (Насыфи) Д. Литовские татары.— Известия Об-ва обследования и изучения Азербайджана. Баку, 1926, № 2, с. 77—95; Вольскі В. Татары на Беларусі.— Наш край, 1927, № 4, с. 25—29; Гембіцкі Я. Да пытання аб сацыяльна-эканамічным стане беларускіх татар у сярэднявечча.— Запіскі аддзела гуманітарных навук. Беларуская АН. Кніга 8. Працы класа гісторыі, т. III. Мінск, 1929, с. 53—64; Kryczyński S. Tatarzy Litewscy.—Warszawa, 1938; Музафараў Р. Пра беларускіх татар.—Полымя, 1966, № 1, с. 150—154; Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории.— Мн., 1968, с. 169—173.

2 Большая Советская Энциклопедия, изд. 2-е.— М., 1956, т. 42, с. 3; Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории, с. 169—171; Советская историческая энциклопедия.— М., 1973, т. 14, стлб. 143.
3 Czacki T. O litewskich i polskich prawach.— Warszawa, 1801, t. II, s. 138—139.

4 Смирнов В. Д. Крымское ханство под верховенством Оттоманской Порты до начала XVIII века.— СПб., 1887, с. 413; Якобсон А. Л. Крым в средние века.— М., 1973, с. 133.
5 Хроника Быховца.— М., 1966, с. 98; Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв.— М., 1963, с. 123—124.

6 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 56.
7 Ibid., s. 51.
8 Советская историческая энциклопедия, т. 6, стлб. 786; т. 14, стлб. 668; Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 57—62.

9 Лаппо И. И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия.— Юрьев, 1911, с. 261—277; Гембіцкі Я. Да пытання аб сацыяльна-эканамічным стане беларускіх татар..., с. 56.
10 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 81—82.
11 Там жа, с. 83—84.
12 Акты, издаваемые Виленскою комиссиею.— Вильна, 1906, т. XXXI, с. 4.

13 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, с. 1150, л. 29—30; Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie, Archiwum Radziwiłłowskie, dział XXIII, teka 122, Regestr Tatarow.
14 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 26—27.
15 Muchliński A. Zdanie sprawy o tatarach litewskich.— Teka Wileńska, 1858, N 5, s. 66—67.
16 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 23.

17 Русская историческая библиотека.— Пг., 1915, т. XXXIII, стлб. 5, с. 109—120; Korzon T. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce.— Lwów, 1923, t. 1, s. 341.
18 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 24—25.
19 ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 2, с. 3138, л. 93 адв.— 94, 261 адв., 263, 308 адв.
20 Там жа, с. 3398, л. 2 адв., 3 адв.; с. 3401, л. 2 адв.— 3.
21 Там жа, с. 3584, л. 259 адв., 847 адв.; с. 3597, л. 2; с. 3598, л. 71; с. 3606, л. 8 адв., 10 адв.
22 Там жа, с. 3598, л. 71.
23 Там жа, воп. 4, с. 1305-а, л. 121—123.
24 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 37.

25 Добрянский Ф. Предисловие, с. XXII.
26 Muchlinski A. Zdanie sprawy o tatarach litewskich.— Teka Wileńska, 1858, N 4, s. 260.
27 Там жа, N 5, s. 166—167.
28 Вольскі В. Татары на Беларусі.— Наш край, 1927, № 4, с. 27.
29 Всесоюзная перепись населения 1926 года, т. X.— М., 1928, с. 9.
30 Kryczyński S. Tatarzy Litewscy, s. 54.

# З НАШАЙ ГІСТОРЫІ

У сувязі з неабходнасцю выяулення месца размяшчэння і памерау татарскага мізара, знесенага у пасляваенныя 1960-я гады, прышлося нейкі час папрацаваць у Дзяржауным гістарычным архіве Беларусі, дзе быу знойдзен план Менска 1888 г. Праўда, мізар на гэтым плане не пазначаны, але затое у раёне цяперашніх праспекта Машэрава, вуліц Ціміразева, Гвардзейскай і інш. былі выяулены вуліцы, плошча і месца знаходжання мячэці, якія цесна звязаны з гісторыяй беларускіх татарау.

У савецкі час былі сцёрты усе назвы са словам "татарскі", а у пачатку 1960-х гадоу знеслі і апошнія сляды -- мячэць і мізар.

Каб мець хоць нейкае уяуленне аб старым Менску і раёне пражывння татарау ніжэй змяшчаецца схематычны план гэтага раёна горада. Усе назвы на схеме -- у адпаведнасці з планам 1888 г. / акрамя пл. Свабоды /. Сучасныя назвы падаюцца у дужках. Былая мячэць паказана квадрацікам з паумесяцам па Вялікай Татарскай вуліцы. Цікава, што акрамя Татарскіх вуліц, у горадзе былі Амуратауская / ад мусульманскага імя Мурат /, Турэцкая, якія таксама, напэуна, звязаны з нашай гісторыяй.

І апошняя заувага. Пры праглядзе спрау Мінскай Гарадской Управы з 1861 па 1920 гг. быу выяулены толькі адзін выпадак замены назвы вуліцы -- Міхайлауская вул. была перайменавана у гонар графа Чапскага у 1910 г., а у 1900 г. разглядалася справа аб адкрыцці новай -- Тарасаускай вуліцы, якая паказана на нашым схематычным плане і пры якой знаходзілася Татарская плошча.




## Схематический план г. Минска

составлен на основе плана г. Минска 1888 г. хранящемся в Гос. Истор. Архиве Беларуси (фонд 1477 оп. 1 дело л. 1526)

## У ГАЛІНЕ АРЫЕНТАЛІСТЫКІ

Сярод беларускіх арыенталістаў выключнае месца належыць Антону Іосіфавічу Мухлінскаму / 1808 -- 1877 /, які прысвяціў не адну працу праблемам гісторыі татараў на Беларусі, захаванасці іх этнічных, фальклорных асаблівасцей сярод асноўнага насельніцтва краю. Вывучаючы гэтую праблему, ён прыйшоў да цікавых вывадаў пра ўзаемаўплывы беларусаў і татараў, а таксама татараў і палякаў, татараў і украінцаў і г.д.

Несумненна, што для гісторыі беларускай фалькларыстыкі пэўнае значэнне мае той аспект даследаванняў Мухлінскага, які датычыцца беларуска-татарскіх духоўных кантактаў. Агульнапрызнана, што ў XIX ст. сярод беларускіх арабістаў Мухлінскі быў адным з найбольш вопытных тэарэтыкаў і практыкаў. Падарожнічаў па Егіпце, Сірыі, Палесціне, Ліване, Персіі, Іраку і іншых краінах Блізкага Усходу. Як тэарэтык распрацаваў спецыяльны курс лекцый для студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта, паклаўшы пачатак навуковай арабістыцы Расіі на заснаваным ім жа факультэце.

Нарадзіўся А.І.Мухлінскі ў Саснове Навагрудскага павета ў сям"і дробнага беларускага шляхціца. Скончыў павятовую школу пры кляштары трынітарыяў у Маладзечне, юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта са ступенню кандыдата юрыспрудэнцыі. Потым спецыялізаваўся па арабістыцы ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Адначасова ён студыяваў ва Усходнім інстытуце пры Азіяцкім дэпартаменце калегіума замежных спраў.

У 1837 г. Мухлінскі зрабіў першае падарожжа ў Турцыю, а ў 1834 -- у Егіпет, дзе прабыў да 1835 г. У час гэтай экспедыцыі ён ледзьве ўратаваўся ад заразы. Яго спадарожнік і калега прафесар А.Гусеў стаў ахвярай гэтай хваробы.

У 1839 г. Мухлінскі стаў прафесарам кафедры асманскай / турэцкай / філасофіі. Ён працаваў у Санкт-Пецярбургскім універсітэце поруч з М.В.Гогалем, братамі-прафесарамі, ураджэнцамі Магілёўшчыны, М.С.Кутаргай / 1809 — 1886 /, С.С.Кутаргай / 1805 — 1863/ і іншымі вядомымі дзеячамі навукі і культуры. З 1859 г. Мухлінскі стаў дэканам створанага ім жа факультэта ўсходніх моў.

Шмат увагі ўдзяляў навуковым даследаванням, збіранню помнікаў арабскай пісьменнасці, мастацтва, а таксама захапляўся нумізматыкай, этнаграфіяй. Энтузіяст вывучэння мусульманскай культуры двойчы вымушаны быў пакідаць універсітэт па дэмакратычных меркаваннях. Першы раз — ад нязгоды з абуральнай афіцыёзнай універсітэцкай пастановай ад 19 кастрычніка 1849 г. У ёй гаворыцца пра тое, "каб казённыя выхаванцы, або выхаванцы з ураджэнцаў заходніх губерняў, прызначаны былі на працу ва ўнутраныя рускія губерні, а казённакоштныя студэнты універсітэта з прыродных рускіх губерняў на настаўніцкія пасады ў Беларускай навучальнай акрузе". Несумненна, што такое каланіялісцкае рашэнне не мог падтрымаць ніводзін нават ліберал, не кажучы пра дэмакратычныя колы інтэлігенцыі. Гэта пастанова перашкаджала росту ўласных творчых сіл Беларусі, урэшце вяло да нахабнай асіміляцыі народа. Другой прычынай пакідання Мухлінскім універсітэта з'явілася тое, што ён не хацеў працаваць з В.І.Сянкоўскім— ідыёлагам вялікадзяржаўнай палітыкі царызму, праціўнікам усяго прагрэсіўнага і дэмакратычнага.

Цяжка сказаць, што пабудзіла А.І.Мухлінскага заняцца праблемай культуры нацыянальнай меншасці на Беларусі і Літве — татараў[1], захаванасці іх этнічных асаблівасцей, а таксама ўзаема-

---

[1] Сярод татараў існуе думка, што А.Мухлінскі паходзіў з беларускіх татараў.

уплывы з беларусамі, літоўцамі, палякамі, украінцамі. Найбольш значнай работай Мухлінскага з"явілася "Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татараў"/ 1857 /[1].

Аўтар даў гісторыю пасялення татараў на Беларусі і Літве. Першыя іх пасялішчы тут з"явіліся ў часы Вітаўта, які цаніў добрых воінаў і земляробаў. Татары гераічна праявілі сябе ў бітве з Тэўтонскім ордэнам. Менавіта для падтрымання пастаяннай баявой гатоўнасці супроць тэўтонаў і трымалі татарскае воінства. Ужо з таго часу, адзначае вучоны, татарскія фразеалагізмы сталі ужывацца ў беларускай гаворцы. Напрыклад, татары Вітаўта называлі Ватад / Ватадзь /, што азначае моцны чалавек, апора ў пэўным родзе / Апора Ісламу на захадзе /. Слова ватадзь перайшло да беларусаў і літоўцаў і стала будаўнічым тэрмінам, што абазначае падпора дома[2].

Хоць на Беларусі існавалі легенды і паданні іншага плана. Мухлінскі прыводзіць урывак з пісьмовай крыніцы, у якой засведчана і жорсткасць татарскіх нападаў. Яны часта не мелі адносін да татараў, што тут здаўна жылі. У 1503 г. арда крымскага хана Менлі Гірэя аказалася пад Клецкам. "Уварваўшыся ў горад, спустошыўшы яго і ператварыўшы ў руіны як сам горад, так і старажытны замак. Галодныя і амаль голыя жыхары вымушаны былі ратавацца бегствам у лясы" [3]. Другі раз татары Менглі-Гірэя аказаліся тут у 1505 г. На гэты раз яны былі разбіты Міхалам Глінскім. Ля Цёмнага возера, што лучыцца з ракой Ланею, больш трох гадзін ішоў бой і татары былі разбіты.

Даследчык запісаў народнае паданне, што сляды магіл у выглядзе курганоў [4] насыпаны паміж ракой і возерам. Само возера з таго

---

1 Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб, 1857.
2 Там жа, С. 125.
3 Там жа. С. 131.
4 Тут Мухлінскі прыняў славянскія курганы за татарскія.

часу называюць Чырвоным ці Красным. Значную колькасць татарау тут пабілі, а рэшту узялі у палон. Іх рассялілі па мястэчках і гарадах. Вось чаму у Клецку з"явілася татарская вуліца, як і у іншых мястэчках Беларусі, а у Менску -- Татарскі канец. Мясцовыя татары з пагардай адносіліся да рабаунікоу.

"Мы будзем кроу праліваць за літвінау", -- так засведчыла- ся адданасць тутэйшых татарау у "Актах Літоускай метрыкі" / 1508/. Яны на самай справе гэта не раз даказвалі.

Паступова татары зжываліся з беларусамі. Як пісалі П.М.Шпілеу- скі і А.І.Мухлінскі, мужчыны першымі прынялі строй беларускага касцюма. Пераняли мову беларускіх мяшчан. І самае для іх дарагое і сімвалічнае -- Кур"ан пераклалі на беларускую мову. Мухлінскі прывёу узоры такіх паракладау: "Эй нядужы адамскі чалавек ! Астат- ні час прыдзе, ніхто табе не зможа дапамагчы як толькі Бог".

У 1558 г., паводле падлікау Мухлінскага, у Вялікім княстве Лі- тоускім жыло каля 200 тыс. татарау. І хоць яны жылі кампактнымі групамі, трымаліся сваёй рэлігіі, аднак духоуныя узаемауплывы адбываліся. У выніку шматгадовых назіранняу і супастауленняу Мух- лінскі прыйшоу да вельмі важных вывадау, што беларускія / літоу- скія / татары "ніколькі не падобныя да мангольскіх пляменау"[1]. Гэта абумоулена тым, што яны на працягу цэлых стагоддзяу пераняли у сваю культуру пэуныя элементы беларускай.

Мухлінскі праводзіу запісы фальклору сярод беларускіх татарау. Найперш выявіу у іх мове прысутнасць шматлікіх беларускіх прыка- зак і прымавак. Сярод гэтай этнічнай групы вучоны збірау помнікі татарскага пісьменства. На яго думку, з тых рукапісных кніг, якія

---

[1] Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литов- ских татар. СПб., 1857. С.48.

яму удалося адшукаць на Беларусі, "можна было б скласці маленькую бібліятэку" [1]. Было тут шмат кніг і на беларускай мове. Мухлінскі яшчэ раз пераканаўся, што сярод татараў Беларусі ужываюцца тутэйшы фальклор, асабліва прыказкі і прымаўкі, якія, вядома, спачатку нарадзіліся у асяродку беларусаў, а пасля засвоіліся татарамі. Магло быць і наадварот, але такое здаралася радзей. Пра гэта прафесар напісаў асобнае даследаванне [2].

Пачынаючы з ХУІ ст., мясцовыя татары аказаліся пад сур"ёзным моўным уплывам беларусаў. Часта звярталіся да сваіх суродзічаў з выратавальнай просьбай падтрымліваць даўнюю традыцыю: "Калі не умееце маліцца па-татарску, абракайцеся па-беларуску". Паводле сабраных Мухлінскім тэкстаў, напісаных арабскімі літарамі, няцяжка прасачыць паступовае нарошчванне духоўных узаемаўплываў. Гэта мае адносіны і да прымхаў, забабонаў, замоў, чараў і г.д. Напрыклад: "Хто будзе дуа / граматку / насіць, век доўгі будзе мець", "Ад сэрца балення піць і насіць", "Ад ліхіх вачэй насіць" Бясспрэчна, у беларускіх тэкстах, напісаных арабскімі літарамі, назіраецца спецыфічная арфаэпія, але бытаванне сярод іх гутарковай мовы не выклікае ніякіх сумненняў. І татары былі бадай такімі ж паўнапраўнымі носьбітамі беларускай культуры, як і карэннае насельніцтва.

А.І.Мухлінскі яшчэ не раз у сваёй навуковай практыцы звяртаўся да праблемы становішча татараў на Беларусі [3]. Ён выказваўся

---

I Мухлинский А. Исследование о происхождении ... С. 48.

2 Muchliński A. Źródłosłownik wyrazów, które przeszły wprost czy pośrednio od naszej mowy z języków wschodnich. Petersburg, 1858.

3 Muchliński A. Zdanie sprawy o Tatarach litewskich... w r. 1858. – Teka Wileńska, 1858, N 4, 5, 6.

за далейшае збліжэнне культур гэтых этнічных груп, хоць дамінуючае становішча вызначала і будзе вызначаць беларуская моўная культура. Ён першы сярод беларускіх даследчыкаў засяродзіў увагу на норавы і быт татараў. Для большай пераканаўчасці вучоны прывёў статыстычныя дадзеныя татарскага насельніцтва па Мінскай, Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Аўгустоўскай і Люблінскай губернях. Паказаў, што на беларускай зямлі мясцовыя татары да сярэдзіны XIX ст. поўнасцю перайшлі на беларускую мову зносін, а значыць і беларускі фальклор стаў іх родным і яны сталі не толькі яго носьбітамі, а і творцамі.

Поруч з вывучэннем этнагенезу мясцовых татараў, Мухлінскага займалі пытанні бытавання культур караімаў і яўрэяў. Апошнімі даследчык займаўся ў меншай меры і не пакінуў нічога істотнага. Хоць не выключана, што ў будучым сярод рукапіснай спадчыны вучонага будуць адшуканы цікавыя працы.

Ураджэнец Навагрудчыны І.Петрашэўскі / 1796 -- 1869 /, які таксама як Мухлінскі быў у свой час добра вядомы сярод вучоных Захаду, называў свайго земляка "вялікім мучальнікам" за тое, што шмат сабраў, адкрыў, апісаў, даследаваў, але сам "Мухлінскі ніколі не вылучаўся на першы план". Гэта было ў натуры прагрэсіўнага прафесара Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

Справу А.І.Мухлінскага ў вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускіх татараў прадоўжылі Я.Ф.Карскі, М.Я.Янчук, І.Рубяроўскі, У.А.Котвіч, І.Ю.Крачкоўскі, А.А.Шлюбскі, І.І.Луцкевіч, А.Варановіч, Я.Шынкевіч, Ян Станкевіч, М.Канапацкі,А.К. Антановіч і інш. Ля вытокаў жа вывучэння узаемадзеяння розных этнічных груп на Беларусі стаяў А.І.Мухлінскі.

## ПАБУДОВА МЯЧЭЦІ У МІРЫ

Мір вядомы з 1395 г. Уваходзіў у Навагрудскае ваяводства Вялікага княства Літоўскага. У 1496 -- 1510 тут збудаваў замак Юры Ільініч, маршалак літоўскі і староста берасцейскі / Брэст /. У 1568 г. замак у Міры перайшоў у валоданне Радзівілаў, сваякоў Ільінічаў. З інвентара г.Міра ад 1686 г. відаць, што ў Міры існавалі дзве "вуліцы татарскія", на якіх жыло больш за 30 сямей, у т.л. 14 татарскіх. Татары былі абавязаны выконваць вызначаныя павіннасці ў замку. Росквіт мусульманскай абшчыны ў Міры адзначаецца ў ХУШ ст. Больш падрабязна аб гэтым я пісаў у кнізе "Татары ў Літве і Польшчы" / 1989 г. /. Усе татары, якія жылі у той час у Міры, вызнавалі Іслам. Пасля раздзелу Рэчы Паспалітай паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй у канцы ХУШ ст. мірскія ўладанні разам з горадам і замкам заставаліся і надалей ва ўласнасці роду Радзівілаў. Вясною 1809 г. татары-мусульмане, якія жылі там, звярнуліся да князя Дамініка Радзівіла, ардыната маёнткаў вакол Нясвіжа і Алыкі, з просьбай аб дазволе пабудовы мячэці. Ніжэй прыводзім тэкст адказу ў арыгінальным гучанні, які дае згоду на такую пабудову. Гэта чарнавік ліста, які збярогся ў канцылярыі Д.Радзівіла. Ліст-арыгінал быў уручаны татарам.

Тэкст дакумента:

"Дамінік Радзівіл, Ардынат Нясвескі і Алыкі, ксёнжа на Біржах ... Азнаймуемы вшысткіх разэм і куждэму з особна кому о тым ведзець належало, іж просілі ў мне пшез поданон суплікэн обыватэле Мяста моего Міра, вызнаня Магометанскего аліас Татарове, а мяновіце Мустафа Сафарэвіч Молна, ажэбым Позволіл Ім Пляцу на мэчэт в месце моім Міже, на прэдмесцю миньским на Татарскей Уліцы лежонцэго, купёнэго ад старозаконных: Лейбы і Сары Беміновічув. Я тэды ласкаве пшыхыляёнц се до Іх Просьбы жэчоны

/ пляц / Длугосьці Локці 26 а шэрокосьці 27 мяры / 17 х 18 м, заўвага рэд. / конфірмуемы, об медзэ з еднэй строны Абрагама Шыракевіча, а з другей строны Пляцув Татарув мешкаёных од Валу, цалковіце найнмейшэй чэнсці не вылончаёны, на Мэчэт ршэз тых жэ обыватэлюв Мірскіх Вызнаня Магомэтаньскего аліас Татарув, выставіць се маёнцы, ршэзначам, Даруе і запісуе, бэз жаднего пшэз мє і Сукцэсорув моіх не маёнцэго се вышёнгаць за то платы, і вольным, разэм чынёны од вшэлькіх оплат мейскіх з Домоства, так тэраз Моей і нейшэго Молны, яко тэж і Его Настэмпцув — і на том дал Наш ліст, Пшывілей з подпісэм Рэнкі і вышісёнон Нербу Нашэгс Печэнцё. Дзяло се в Замку моім Несвескім 1809, Мая 13 Дня."

Т л у м а ч э н н і: ордынат — уласнік маёнткаў, найстаршы ў родзе; супліка — пісьмовая просьба; аліас — або, інакш кажучы; молна — мусульманскі святар, імам; старозаконні — яўрэі; вал — земляныя ўмацаванні, акаляючыя Мір; сукцэсор — наследнік маёнткаў, наступны ўласнік; нейшы — памянуты вышэй М.Сафарэвіч.

Уладар маёнтка згадзіўся на пабудову мячэці і пацвердзіў, што за дазвол не бярэ ніякай платы а таксама звальняе мусульманскую абшчыну ў будучым ад усялякіх аплат і падаткаў за грунт, звязаных з гэтай пляцоўкай у горадзе. Гэта была значная ільгота.

Мячэць была пабудавана і дзейнічала да 1940 г. У XIX ст. у Міры жылі татарскія фаміліі: Варановічы, Шагідэвічы і Міскевічы. Згаданы ў дакуменце Мустафа Сафарэвіч герба Лук у 1772 — 92 быў завадовым вайскоўцам у кавалерыйскім палку Кароннай прыгранічнай стражы. Пад старасць стаў імамам і пасяліўся ў Міры.

Літ.: М.А.Ткачоў. Замкі і людзі. Мн., 1991; Ян Тышкевіч. Татары ў Літве і Польшчы. Даследаванне гісторыі XIII — XVIII ст. Варшава, 1989.

# ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ
# ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА АБ"ЯДНАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН НА БЕЛАРУСІ / "АЛЬ-КІТАБ " /
# А.Ю.ШАБАНОВІЧУ

У пачатку 1950-х гадоў у нашым горадзе Навагрудку мясцовыя ўлады адабралі ў татараў-мусульман Мячэць і перарабілі яе пад кватэры. Мячэць была пабудавана нашымі продкамі. Для мусульман-вернікаў у нашым старажытным горадзе яна з"яўлялася свяшчэнным помнікам і малітоўным домам. Гэты свяшчэнны будынак камуністы-бязбожнікі, начальнікі горада, спаганілі. У сценах прарэзалі вокны і дзверы, мінарэт знялі і паламалі. Вакол будынка парабілі тамбуры і прыбудовы, хлявы, прыбіральні. Жыльцы ляпілі, каму і што захацелася.

Мы, мусульмане, звярнуліся 12 кастрычніка 1991 г. ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь да С.С.Шушкевіча, а таксама да старшыні па справах гістарычных помнікаў Беларусі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Н.С.Гілевіча, да старшыні Гродзенскага аблвыканкама Дз.К.Арцымені, да старшыні гарвыканкама горада Навагрудка аб перадачы Мячэці татарам-мусульманам. Пакуль што ніякога зруху няма, ніякіх вынікаў.

Просім згуртаванне татараў-мусульман на Беларусі / "Аль-Кітаб" / дапамагчы нам у падрыхтоўцы праектна-каштарыснай дакументацыі на аднаўленне Мячэці ў г.Навагрудку.

Мусульмане горада Навагрудка звяртаюцца за дапамогай да ўсіх мусульман на Беларусі, да сусветнай грамадскасці, каб нам аддалі мячэць і мы маглі бы па-людзку маліцца Алаху па свайму мусульманскаму звычаю.

Навагрудскі камітэт татараў-мусульман

27 лютага 1992 г.

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ ПІСЬМЕ Ў РЭЛІГІЙНЫХ КНІГАХ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ

З даўніх часоў у многіх сем"ях беларускіх / а таксама этнічна ім блізкіх літоўскіх і польскіх / татараў захоўваюцца кнігі па рэлігіі Ісламу на арабскай мове -- Кур"аны, хамаілы, тафсіры, кітабы і іншыя. Нашы продкі раней вучылі сваіх дзяцей чытаць гэтыя кнігі на арабскай мове, хаця яе не разумелі. Арабскую мову маглі ведаць толькі адзінкі, якім пашчасціла вучыцца ў арабскіх краінах. Да такіх нашых землякоў можна аднесці вядомых яшчэ і цяпер татарам Якуба Шынкевіча / былога муфція Рэчыпасполітай Польшчы, які да 1939 г. быў муфціем у Вільні /, Алі Варановіча / былога імама ў Варшаве да 1939 г., паводле некаторых меркаванняў забітага ў Курапатах пад Мінскам / і некалькі іншых. Усе астатнія веруючыя, не разумеючы слоў той ці іншай малітвы, не маглі ведаць у якім выпадку / пры нараджэнні, шлюбе, пахаванні і г.д. / трэба чытаць тую ці іншую малітву. Вось для гэтага і пісаліся на аснове літар арабскага алфавіта каментарыі рэкамендацыі да кожнай малітвы, але ўжо на беларускай, польскай ці рускай мовах / а то і на сумесі моў /, у залежнасці ад таго, хто яе перапісваў, якой мовай лепш валодаў, у які перыяд перапісвалася тая ці іншая рэлігійная кніга.

Для перадачы ўсіх адценняў славянскіх моў у арабскім алфавіце / складаецца з 29 літар / знакаў не хапала, і таму да іх дадаткова ўводзілася некалькі новых літар, якія пасля арабскага алфавіта прыведзены ў табліцы.

Арабскі алфавіт Табліца

| № п/п | Напісанне літар | | | | Назва літары | Гучанне літар у славянскіх мовах |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | у канцы слова | у сярэдзіне слова | у пачатку слова | адзіночная літара | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1. | ـا | ـا | ا | ا | аліф | А, И, Э, У |
| 2. | ـب | ـبـ | بـ | ب | ба | Б |
| 3. | ـت | ـتـ | تـ | ت | та | Т мягк. |
| 4. | ـث | ـثـ | ثـ | ث | са | С мягк. |
| 5. | ـج | ـجـ | جـ | ج | джым | Дж |
| 6. | ـح | ـحـ | حـ | ح | ха | Х мягк. |
| 7. | ـخ | ـخـ | خـ | خ | х̄а | Х цвёрд. |
| 8. | ـد | ـد | د | د | дал | Д |
| 9. | ـذ | ـذ | ذ | ذ | зал | З |
| 10. | ـر | ـر | ر | ر | ра | Р |
| 11. | ـز | ـز | ز | ز | за | З |
| 12. | ـس | ـسـ | سـ | س | син | С мягк. |
| 13. | ـش | ـشـ | شـ | ش | шын | Ш |
| 14. | ـص | ـصـ | صـ | ص | сад | С цвёрд. |
| 15. | ـض | ـضـ | ضـ | ض | дад | Д цвёрд. |
| 16. | ـط | ـطـ | طـ | ط | та | Т цвёрд. |
| 17. | ـظ | ـظـ | ظـ | ظ | за | З цвёрд. |
| 18. | ـع | ـعـ | عـ | ع | āін | А мягк. |
| 19. | ـغ | ـغـ | غـ | غ | гаін | Г цвёрд. |
| 20. | ـف | ـفـ | فـ | ف | фа | Ф |
| 21. | ـق | ـقـ | قـ | ق | каф | К цвёрд. |
| 22. | ـك | ـكـ | كـ | ك | кяф | К мягк. |
| 23. | ـل | ـلـ | لـ | ل | лям | Л мягк. |
| 24. | ـم | ـمـ | مـ | م | мім | М |
| 25. | ـن | ـنـ | نـ | ن | нун | Н |

Арабскі алфавіт Працяг табліцы

| 1. | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 26. | و | و | و | و | вав | В |
| 27. | ـه | ـهـ | هـ | ه | га | Г мягк. |
| 28. | | ـلا | لا | لا | ямаліф | |
| 29. | ـى | ـيـ | يـ | ى | я | Е, Я, Ю |
| Дадатковыя літары | | | | | | |
| 30. | ـځ | ـځـ | ځـ | ځ | дзе | Дз |
| 31. | ـژ | ـژ | ژ | ژ | жэ | Ж |
| 32. | ـپ | ـپـ | پـ | پ | пэ | П |
| 33. | ـڝ | ـڝـ | ڝـ | ڝ | цэ | Ц |
| 34. | ـچ | ـچـ | چـ | چ | чэ | Ч |
| 35. | ـڵ | ـڵ | ڵ | ڵ | ла | Л цвёрд. |

З а ў в а г і : I. У арабскім алфавіце адсутнічаюць літары галосных гукаў -- іх замяняюць значкі над або пад зычнымі літарамі, якія называюцца фатха / ◌َ /, кясра / ◌ِ /, дамма / ◌ُ /, сукун / ◌ْ /, ташдыд / ◌ّ /. У залежнасці ад таго, які значок і дзе ён пастаўлен / над ці пад літарай / будзе і гучанне гэтай літары. Таму для прыкладу і прыведзена гучанне літар № I / аліф / і № 29 / у графе 7.

2. Літара № 35 у адрозненне ад Л мяккага / № 23 / мае дадатковую вертыкальную крэсачку і тады вымаўляецца цвёрда / луг, лаўка /. Але нельга яе блытаць з літарай № 22 / кяф /, у якой крэсачка звілістая.

3. Пры пісьме і чытанні тэкстаў, напісаных на славянскіх мовах з выкарыстаннем літар арабскага алфавіта / №№ I -- 29 / і дадатковых / №№ 30 -- 35 / трэба памятаць пра злучэнне якой-небудзь з іх з літарай № 26 "و" / вав /, якая, будучы напісанай пасля іншых літар і пры адсутнасці над і пад ёй значкоў, гучыць як гук "о". Прыклады напісання славянскіх слоў арабскай графікай глядзіце на наступнай старонцы.

اَو (о)؛ بَو (бо)؛ تَو (то)؛ خَو (хо)؛ دَو (да)؛ رُو (ро)؛ ڠو (го)؛ نُو (ню)

چو (цо)؛ پو (по)؛ ڃو (дзо) і г.д.

А цяпер некалькі прыкладаў напісання некаторых слоў і каментарыяў да малітваў, узятых з хамаілаў:

(1) صُوشَ وَلْقَ يَسْلِ يَصْطْ طُو

суша велька еслі ест то
(засуха) (вялікая)

(2) پَچْ تَكْبِرْ رَظِ طْشِ دَوْشِ سَلَمْ

пець тэкбір разы тшы давшы селям
(тры)

(3) پَيْ تُو اِ رْظِنْ قُورْبَانْ چَصُو تَغُو

пей то і рзнч курбана часу тэго
(пой) (рэж) (час) (у гэты)

(4)
اَوْبِينَ نَمَاظْ مُودْلِنْتْ رَكِعَتُو دْوَانَسْچِ نَاصْتَنْپِنَ

эўвабіне намаз модлітсе ракіатоў дванасце настэмпне
(затым)

بُوغْ پَانْ چْلُووِقُ تَمُو مُودْلِچْشَ بَنْدَ نَمَاظْ تَنْ قْتُو

Буг пан чловеку тэму модліцьсе бэндзе намаз тэн кто
(гэты)

نَمَاظْ قَدِرْ نُوچِي تِسُونْچْ يَاقْبْ دْ صْپَاسَنْ تِلَ

намаз кадыр ночей тысёнц якбы да спасення тыле
(тысячу) (дасць) (столькі)

اُوبْرُونِ بُوغْ پَانْ پْرِغُودْ اِ بَدْ وْشِصْتْكِخْ اُودْ قْلَانَلْتْ

оброні Буг пан прыгод і бед вшысткіх од кланялся
(абароніць) (усіх) (ад)

(5) اَللّٰه
Аллах

(6) مُحَمَّد پْرُورُوقْ
Мухаммед пророк

(7) اِسْلَمْ
іслям

(8) طَاطَرْ بَلَارُوسْ
Беларусі татары

(9) رَادْچِنَ بَلَارُوسْ
Беларусь Радзіма

## НАРАДЗІЎСЯ У КЛЕЦКУ, У ТАТАРСКАЙ СЯМ"І

У горадзе Клецку -- адным з найстарэйшых гарадоў Беларусі / упамінаецца пад 1128 г. / татары былі паселены ў 1506 годзе. Вядомы беларускі этнограф і краязнавец П.Шпілеўскі ў артыкуле "Путешествие по Полесью и Белорусскому краю" / часопіс "Современник", 1853, № 3 / згадвае, што "клецкія татары жылі асобнай вуліцай, вядомай пад назвай "Татарская слабада", маюць сваю хатнюю малельню-мячэць, і вядуць жыццё працавітае, ахайнае і міралюбнае; у іх слабадзе не чуваць ні разгулу, ні шуму... Заўсёды цішыня і спакой пануюць паміж імі. Яны больш трымаюцца свайго суполніцтва, хоць і не цураюцца знаёмства з хрысціянамі...

Галоўная адметная рыса клецкіх татараў -- сумленнасць, гасціннасць і акуратнасць, — татарак -- спіпласць і цнатлівасць... У хатах у іх незвычайная чысціня і прыстойнасць, тая толькі бяда, што там абдае вас часам пахам цыбулі або аўчыны. Гэта таму, што татары займаюцца гарбарнай справай, а татаркі -- вырошчваннем цыбулі і часнаку на ўвесь Клецк. Гэта галоўны від заняткаў клецкіх татараў: яны прадавлі скуры не толькі сваім мястэчкоўцам, але і ў суседнія вёскі. Вялікую колькасць іх збывалі ў Міры, Ляхавічах, Стаўбцах і ў Нясвіжы -- на вядомай Міхайлаўскай ярмарцы. Што ж датычыцца цыбулі і часнаку і наогул усялякай гародніны, то татары валодаюць нейкім сакрэтам вырошчваць іх значна большымі, чым гэта бывае ў рускіх мяшчан клецкіх: іх цыбуліны часам бываюць велічынёй з рэпу, іх бульба -- чырвоная, вельмі смачная, сопкая, не вадзяністая; іх морква і буракі -- сакавітыя і нават зімою маюць смак такі ж, як і летам. Усе гэтыя прадукты, гэтаксама і ўсялякую зеляніну, вы знойдзеце ў іх ў

самую лютую зіму і к вясне і прытым знойдзеце без якога-небудзь пашкоджання і у вялікай колькасці...

Летам татаркі як бы не існуюць для мястэчка: усе яны з дочкамі праводзяць цэлыя дні у агародзе і на полі; зімой, у пятніцу і нядзелю вывозяць на базар свае тавары вялікімі вазамі і збываюць яго наезжым памешчыкам і аднадворцам. Але вось што дзіуна: вельмі рэдка здараецца каму-небудзь дастаць у іх насення якой-небудзь гародніны.

Татары не цураюцца адукацыі: яны аддаюць сваіх дзяцей у народныя вучылішчы, з іх выходзяць бойкія вучні, схільныя да матэматыкі, фізікі і медыцыны".

У 1888 годзе у сям"і клецкага імама Якуба Ждановіча, шляхціца, нарадзіуся сын, якому пры азане далі імя Ібрагім. Да войска ён быу добра навучаны таму, што павінен ведаць мусульманін. У 1911 годзе прызваны на вайсковую службу. Калі пачалася першая сусветная вайна, ён служыу у Вільні. Вельмі любіу вайсковую справу. За мужнасць і адвагу атрымау чатыры Георгіеускія крыжы і чатыры медалі. Кожны раз пасля узнагароды яму давалі адпачынак і магчымасць пабываць дома, то ён заусёды заучасна вяртауся на фронт. І усю вайну ён прайшоу з адным кулямётам.

Быу моцнай будовы і у Клецку не было за яго дужэй. Яго сын Якуб успамінае, што "на адным вечары мужчыны прапанавалі яму падужацца. Хоць працiунік быу таксама дужы, але бацька у адно імгненне паклау яго на лапаткі. Бацька быу вясёлы, любіу патанцаваць. На Байрам на гульбішчы за адзін вечар мог стаптаць новы абутак".

Чацвёрты Георгій атрымау пры фарсіраванні рускімі ракі каля Вільні. Перад узыходам сонца узяу з сабою салдата, кулямёт і на лодцы паплыу на тэрыторыю ворага. Па сігналу са свайга бера-

га адкрыў па праціўніку агонь і выклікаў вялікі перапалох у стане ворага. Немцы бязладна кінуліся адступаць, а рускія без страт фарсіравалі раку.

У час Кастрычніцкага перавароту ў 1917 г. Ібрагім Ждановіч быў пад Кіевам. Яго любілі салдаты і паважалі афіцэры. Там жа пад Кіевам Саветы адабралі ў яго ўсе ўзнагароды / крыжы былі з золата і серабра /, якія ён атрымаў у баях за "веру, цара і Айчыну ". Разгневаны ён пакідае службу і вяртаешча ў Клецк.

У 1918 г. Ібрагім бярэ шлюб з Мяр"емай Іосіфаўнай Александровіч. У іх нарадзіліся сын і тры дачкі. Сын Якуб жыве ў Клецку, імам клецкіх татараў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Тут жа ў Клецку жывуць дзве дачкі Ібрагіма і Мяр"емы Ждановічаў -- Аміня і Фурша, а старэйшая дачка Ева жыве з сям"ёй у Аўстраліі.

Сям"я Ібрагіма Ждановіча жыла бедна. Тым удзельнікам першай сусветнай вайны, якія былі паранены і жылі на тэрыторыі Польшчы, з нямецкай кантрыбуцыі плацілі вялікія грошы. Ібрагім жа, хоць быў герой з герояў, але, па міласціАлаха, не быў нават паранены, вядома, нічога не атрымаў.

Шукаючы лепшай долі, Ібрагім у 1929 годзе паехаў на заробкі ў Аргенціну у горад Буэнас-Айрэс, дзе пражыў да 1936 года. Работы добрай не знайшоў, стаў беспрацоўным і змагаўся за свае правы. Пасля гэтага тамашнія ўлады паставілі яму ў пашпарце адзнаку "камуніст" і нідзе нельга было ўладкавашча на работу. З дому яму выслалі грошы на дарогу і ў 1938 годзе ён вярнуўся ў Клецк.

На 54-м годзе жыцця ён захварэў і прышлося зрабіць ампутацыю нагі. Падкючылася гагрэна і праз два тыдні, 23 верасня 1943 года Ібрагіма Ждановіча не стала.

У 1944 годзе дом, дзе жыла яго сям"я, згарэў, а з ім амаль усе рэчы і дакументы. Засталася сямейная фатаграфія і партрэт. Але ў горадзе яшчэ жывуць сведкі, якія памятаюць храбрага воя-- поўнага

Георгіеўскага кавалера Ібрагіма Ждановіча і сведчаць аб напісаным вышэй.

Матэрыялы для нарыса пра Ібрагіма Ждановіча ўзяты з фондаў Клецкага гісторыка-этнаграфічнага музея і ўспамінаў сына. Згуртаванне татараў-мусульман на Беларусі / "Аль-Кітаб" / шчыра дзякуе дырэктару музея Ч.Князевай за прадастаўленыя звесткі.

З а ў в а г а: І. Рыхтуючы гэту публікацыю да друку мы пацікавіліся, які быў статут гэтай узнагароды ў пачатку XX стагоддзя. У часопісе "Военно-исторический журнал" № II за 1989 г. змешчаны грунтоўны артыкул "Георгиевские кавалеры" / старонкі 20 -- 29 /. Прыводзім невялікія вытрымкі з гэтага артыкула:

О георгиевском кресте

/ Статьи статута, объявленные в приказе по военному ведомству 1913 г. за № 643 /

Общие положения

63. К военному ордену Св. Великомученика и Победоносца Георгия причисляется и Георгиевский крест, установленный для нижних воинских чинов в награду за выдающиеся подвиги храбрости и самоотвержения, против неприятеля в бою оказанные.

64. Георгиевский крест имеет четыре степени:
Первая высшая степень: золотой крест, носимый на груди, на Георгиевской ленте с бантом.
Вторая степень: такой же золотой крест, на Георгиевской ленте, без банта.
Третья степень: такой же крест серебряный, на Георгиевской ленте, с бантом.
Четвёртая степень: такой же серебряный крест, на Георгиевской ленте, без банта.

84. Каждому удостоенному Георгиевского креста назначается со дня совершения подвига ежегодная денежная выдача в нижеследующем размере: по 4-й степени -- 36 рублей, по 3-й степени -- 60 рублей, по 2-й степени -- 96 рублей и по I-й степени -- I20 рублей.

2. Нагадаем, што перад першай сусветнай вайной на рускай службе знаходзілася 18 генералаў-татар: Халіль Базарэўскі, Канстанцін Біцютка, Тамерлан Беляк, Юзаф Якубоўскі, Гіпаліт Янушэўскі, Якуб Юзэфовіч, Канстанцін Крычынскі, Леон Крычынскі, Алі Мількоўскі, Абу Талеб Мухля, Юзэф Палтаржыцкі, Аляксандр Рамановіч, Стэфан Сабалеўскі, Мацей Сулькевіч, Аляксандр Талькоўскі, Аляксандр Туган-Барановскі, Ян Туган-Барановскі, Стэфан Вільчынскі. Палкоўнікаў, маёраў і ніжэйшых афіцэраў былі сотні. Што мы ведаем пра іх? Мы звяртаемся да супляменнікаў, да нашых дабразычліўцаў-гісторыкаў, да ўсіх, хто не абыякавы да татарскага народа з заклікам адрадзіць нашу гісторыю. Яшчэ ёсць магчымасць запісаць успаміны людзей, якія памятаюць сваіх суродзічаў і землякоў. Гэта дапаможа лепш зразумець і ўсвядоміць месца і ролю татарскага народа ў гісторыі Беларусі.

## АБ ТЫМ, ХТО ДБАЕ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

Жыццё парадкам пакалашмаціла гэтага чалавека. Але веру духоўную і бадзёрасць ён захаваў. Энергічны, рухавы, гаваркі. І гэта нягледзячы на тое, што за яго плячыма ўжо за 70 гадоў.

Нарадзіўся Алі ў Севастопалі. Бацька і маці памерлі рана, таму ён іх не памятае. Дашкольныя гады правёў у дзіцячым доме. А затым у перыяд калектывізацыі яго ўсынавіла татарская сям"я з суседняй вёскі Біюк-Каралез Бахчысарайскага раёна. Прозвішча ён атрымаў ад прыёмных бацькоў -- Селяметаў.

Тут жа, у маляўнічых горных мясцінах, прайшлі школьныя гады. Далей была вучоба ў Севастопальскім ФЗВ, Ічкінскім тэхнікуме на аддзяленні механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, Бранскім ваенна-палітычным вучылішчы.

Вайну Алі Селяметаў сустрэў 22 чэрвеня 1941 года пад Чарнаўцамі маладым палітруком роты, а скончыў у Берліне капітанам, начальнікам штаба батальёна. Вызваляў Беларусь і яе сталіцу ў складзе 3-й ударнай арміі Першага Беларускага фронту. На вайне пазна-

ёміўся і падружыўся з беларусамі. За ратныя подзвігі ўзнагароджаны Ордэнам Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны І-й ступені, шматлікімі медалямі.

Такая вось кароткая біяграфічная даведка. Але без яе не абыйсціся, яна дапаможа лепш зразумець чалавека, яго лёс, далейшае жыццё. А далейшае жыццё складалася няпроста. Гром грымнуў вясною 1944 года. Цяжкую вестку прынёс Селяметаву пад Гомелем яго зямляк, крымскі татарын. А затым прыйшоў ліст ад суседкі яго сям"і, рускай жанчыны: маці і сёстры / бацька да гэтага часу памёр / высланы няведама куды. Пасля дэмабілізацыі адшукаў іх на Урале, але ўжо не вольнымі людзьмі, а спецпасяленцамі.

Такая ж горкая доля напаткала і самога Алі Селяметава: прапісаны ён быў у горадзе Чырчык / Узбекістан /. Як быццам бы і не зняволены, але і не вольны чалавек. Выехаць нікуды не маеш права -- павінен быў рэгулярна адзначацца ў каменданта. За парушэнне рэжыму -- пакаранне. Парадаксальна, але факт: сядзеў былы абаронца Радзімы, капітан Савецкай Арміі ў запасе пад арыштам у каталажцы за самавольны выезд па-за межы ўстаноўленай зоны. Крыўдна было да слёз. Таму дзе было магчыма расказваў пра крыўду, жорсткасць прыяўленыя да крымскататарскага народа. І верыў, што прыдзе час і ўсё стане на сваё месца. І гэты час настаў. Хоць і не адразу. Нават пасля Указа аб рэабілітацыі дыскрымінацыя працягвалася: былі абмежаванні ў вяртанні на радзіму -- у Крым, перашкоды ў будаўніцтве жылля, прапісцы, прыёме на работу.

Як толькі стала магчыма, адным з першых вярнуўся ў Крым. Усе гэтыя гады не спыняў барацьбы за поўнае скасаванне бруднага абвінавачання са свайго народу: шмат пісаў, даказваў, бываў у паездках. Алі-агъа часты госць у Мінску. Тут жыве яго друг дзяцінства -- Ісмаіл Меметаў. Кожны яго прыезд -- радасць для беларускіх татараў. Добрага Вам здароўя, шаноўны Алі-агъа.

# Беларускія татары

*Якаву, сыну Адама, Якубоўскаму*

На Беларусь нашэсце вашае
Вітаю,
Мірныя татары!
Вы дбалі —
будавалі, ваявалі,
Яблокаў пасьвілі атары.

Былі гароднікамі ўпартымі,
Кажушнікамі, макалямі,
Прэч гора адганялі жартамі,
Кулямі смутак затулялі.

Вы засланяліся правіцаю
Кайданьнікамі на этапах,
Вы мову зберагалі крывіцкую
І ў сэрцах вашых,
І ў кітабах.

Пытаньне ўсім над вухам дыхае:
Каму зашкодзілі,
Скажэце,
Татарскія магілкі ціхія,
Маладзічковыя мячэці?

Хапіла ж нашым мовам
Сьмеласьці
Сышоўшыся, не разгубіцца,
А ў мудрае паразумеласьці,
Як дзьве крыніцы,
Сьветла біцца.

На Шчары,
Нарачы,
На Сьвіцязі
Схаўрусіць хай
З салам алейкум.
Татары!
Множцеся й пладзіцеся,
Вы нашы.
Салям алейкум!

1 лютага 1992 г.

Рыгор Барадулін

## БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

На Беларусь нашэсце вашае
Вітаю,
Мірныя татары !
Вы дбалі --
Будавалі, важылі,
Аблокаў пасьвілі атары.

Былі гароднікамі ўпартымі,
Кажушнікамі, макалямі,
Прэч гора адганялі жартамі,
Куля́мі смутак затулялі.

Вы засланяліся правіцаю
Кайданьнікамі на этапах,
Вы мову зьберагалі крывіцкую
І ў сэрцах вашых,
І ў кітабах.

Пытанне ўсім над вухам дыхае:
Каму зашкодзілі,
Скажэце,
Татарскія магілкі ціхія,
Маладзічковыя мячэці ?

Хапіла ж нашым мовам
Сьмеласці
Сыйшоўшыся, не разгубіцца,
А ў мудрае паразумеласці,
Як дзьве крыніцы,
Сьветла біцца.

На Шчары,
Нарачы,
На Сьвіцязі
Схаўрусіць хай
З салам Алей кум.
Татары !
Множцеся й пладзіцеся,
Вы нашыя.
Салям алейкум !

## НА ТАТАРСКІМ БАЙРАМЕ

Татарын Куба просіць на Байрам:
Пачостка самавітая чакае,
Ды і прычына святу неблагая --
Асенні дзень у сем вятроў зайграў.

Татарын Куба за сваім сталом
Нібыта чараўнік.
А ў вокны хаты
Глядзіцца вёска, дзе спрадвек багата
Сяброўства і чарнявасці галоў.

Татарын Куба дастае Кур"ан.
Нам ісціну Кур"ан прыадкрывае,
Якая не ў адным віне іграе,
Якой дзяліцца трэба ўсім сябрам.

Татарын Куба просіць на Байрам...
Бяседа.
Ноч. Скаваных лужын луская.
І мудрасці паўнюсенькі Кур"ан,
Напісаны па-старабеларуску...

---

З а ў в а г а : Куба -- размоўная форма пашыранага сярод беларускіх татараў імя Якуб, Якаў.

## ПРАЎДЗІВАЯ ЛЕГЕНДА, ЯКУЮ РАСКАЗАЛА ЦЁЦЯ ЭМІЛІЯ

У пачатку гэтага стагоддзя каля вёскі Студзянка, недалёка ад Белай Падляскі / цяпер гэта ў Польшчы / была мусульманская сядзіба. Дом быў вялізны, ажно 12 пакояў. І жылі ў тым доме старэнькая жанчына і яе нежанаты пажылы ужо сын пан Карыцкі, паводзіны якога не заўсёды можна было растлумачыць. Калі маці пачынала маліцца, то ён перадражніваў яе, гаварыў ёй: "Навошта ты выеш ? ". І не даваў маліцца.

Як маці памерла, яму ўсё нейк не ручыла. Было абвешчана, што за даўгі дом будзе па ліцытацыі прададзены, г.зн. з таргоў.
У той мясцовасці жыў мусульманін мулла Хазбіевіч. Ён любіў сваіх суродзічаў і хацеў каб сядзібу купіў хто-небудзь з мусульман З нашай стараны, з Навагрудчыны, там ужо жыў адзін мусульманін. Ён напісаў, што там прадаецца дом і зямля і што там хараша. Тады пераехаць пад Студзянку захацелі ажно пяць мусульманскіх сямей, у тым ліку і мой будучы свёкар Асановіч, які прадаўшы сваю гаспадарку ў Навагарадку пераехаў туды з сям"ёй. Ён купіў дом па ліцытацыі і згадзіўся даглядаць да смерці былога гаспадара пана Карыцкага, які,як ужо гаварылася, быў пажылы і да таго ж хворы. Неўзабаве ён памёр.

Год пасля смерці пана Карыцкага было ціха. Але пасля людзі пачалі гаманіць, што нейкія страхі дзеяцца: то ў лесе нехта завые, то з вады нехта пакажыцца.

На другі год пачаў новы гаспадар пакрыху сядзібу рамантаваць: то дах паправіць, то дзверы, то веснічкі, то плот. Сабакі брэшуць, але нікога не відно. Спачатку сям"я Асановіча пачынала пець Я-Сін. Тады станавілася ціха. Усё ж рашылі прадаць дом і з"ехаць, але даведаўшыся пра страхі ў доме ніхто яго не хацеў

купляць.

Рашылі запрасіць праваслаўнага святара, каб памаліўся за праваслаўную душу і пакрапіў свянцонай вадой. На нейкі час стала ціха, а затым зноў пачалося. Тады падумалі, што гэта можа непрыкаяная душа католіка і запрасілі каталіцкага ксяндза. Ксёндз сказаў, што мы зараз даведаемся, якая душа тут блукае і заходзіць у дом. Ён паставіў крыж на стол, а ружанец / пацяркі / з малым крыжыкам павесіў на клямку дзвярэй. У той жа час ружанец апынуўся на стале, на крыжы. Тады ксёндз сказаў, што гэта пакутуе душа памерлага і за яе трэба маліцца. Тады спыталі у гэтай душы, ці не пан Карыцкі гэта ? Калі так, то проша пастукаць. Ён пастукаў. Тады ўжо ведалі, за каго маліцца. І пачалі за яго душу маліцца. Рабілі гэта вечарамі. Прыязджаў туды і мой бацька, рай яму светлы, з Навагарадка, часта памінаў душу Карыцкага. І памерлы быў удзячны за гэтыя малітвы. І многа чаго добрага рабіў. Бывала дзіця заплача, дык ён яго пакалыша, і дроў да печы прынясе, і яшчэ чым-небудзь дапаможа. Гэта у яго рабілася усё умомант . Жыла з намі пляменніца Фэля, а Эма, калі выходзіць з дому, то просіць каб душа Карыцкага не страшыла Фэлю. І ён не заходзіць. Шмат чаго рабіў, усё стараўся дапамагчы. Быў і такі выпадак. Таксама перасяленец з Навагарадка Багдановіч зайшоў да Асановіча у госці. Зайшла размова пра пана Карыцкага. А Багдановіч і кажа: "Каб я ведаў дзе Карыцкі знаходзіцца, то забіў бы яго". І тут такі выбух атрымаўся, поўная хата дыму, а Багдановіч уцёк і больш ужо не прыходзіў.

Прайшлі тры гады. Аднойчы вечарам стукае нехта ў сцяну. Самуіл Аляксандравіч з сям"ёй вячэралі. Раптам пан Карыцкі загаварыў чалавечым голасам. Ён прыйшоў развітацца і падзякаваць за тое, што яны за яго душу маліліся. Самуіл спытаў, ці мог бы ён

ім паказацца, але жонка Эмілія закрычала, што лепш не трэба, што яна баіцца. Пан Карыцкі сказаў, што паказацца не можа, што ён не той Карыцкі, якім калісьці быў. Цяпер аброс барадой і непазнавальны. Толькі прыйшоў сказаць, што больш турбаваць не будзе. Яму было прызначана тры гады пакутваць за тое, што ён дражніў і крыўдзіў сваю маці, не даваў ёй маліцца. А цяпер ён пойдзе на сваё месца, куды прызначыў Алах. І яшчэ падзякаваў пані Эміліі і яе бацьку, што яны за яго маліліся. Самуіл спытаў у яго, якая яму малітва была найлепшай. Ён адказаў, што малітваў многа. Маліцца трэба і верыць у сілу Алаха. Самуіл яшчэ спытаў, як Карыцкі адчуваў сябе калі мы маліліся за яго. Ён адказаў: "Тады была палёгка, а так увесь час як у агні гарэў". І як пайшоў тады, дык ужо больш і не трывожыў.

## БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

1100 слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| вуліца | сокъакъ |
| вунь | ана / къайда / |
| вуха | къулакъ |
| вучоны | илимли |
| вучыцца | окъумакъ |
| вучыць | окъутмакъ |
| выгляд | тюс / якъшы тюсли / |
| выдатны | пекякъшы |
| выйсці | чыкъмакъ |
| выкананне | иджра этмек |
| вынік | нетидже |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| выпадак | вакъыа |
| выпіць | ичмек |
| выраб | мал / эшъя / |
| вырасці | осмек |
| вырашыць | чезмек |
| высокі | юксек |
| выходзіць | чыкъа |
| вядома | белли |
| вядомы | белли |
| вялікі | балабан |
| вярнуцца | къайтмакъ |
| вясёлы | къуванычлы |
| вясна | багар |
| гаварыць | айтмакъ |
| гадзіна | саат |
| газета | газета / газет / |
| галава | баш |
| галіна | илим / илим балюги / |
| галоўка | ксев |
| галоўны | буюк / энъ буюк / |
| гара | даг |
| гарадскі | шеэрли |
| гарачы | сыджакъ |
| гарэлка | ракъы |
| гарэць | янмакъ |
| гаспадар | шорбаджы |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| гаспадарка | мал-мульк |
| гаспадыня | шорбаджыны къадыны |
| гатовы | азир |
| гектар | гектар |
| генерал | генерал |
| генеральны | темелли / эсас / |
| герой | къарман / батыр / |
| гісторыя | тарих |
| глыбокі | терен |
| глядзець | бакъмакъ |
| глянуць | бакъмакъ |
| год | йыл |
| голас | сес |
| гонар | намус |
| гора | беля, юрек яна |
| горад | шеэр |
| горкі | аджы |
| госць | мусафир |
| грамадскі | ичтимаи |
| грошы | акъча |
| грудзі | кокус |
| група | группа, сныф, болюк |
| гульня | ойн |
| глянуць | ойнамакъ / балаларнен ойна макъ / |
| гутарка | субет |
| гусь | къазы |
| гэй | эй |
| гэтак | шонынъ иле |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| гэты | бу / о / |
| да | къадар / мектепке къадар / |
| дабро | якъшылыкъ |
| даваць | бермек |
| дадому | эвге |
| дык | бойле |
| далей | узакъ |
| далейшы | сонъ даа |
| далёка | узакъ |
| далёкі | узакъ, узакъдаки |
| дамоў | эвге |
| дапамагчы | ярдым этмек |
| дапамога | ярдым |
| дарагі | къыметли |
| дарога | ёл |
| дарожка | ёлчыкъ |
| дастаць | тапмакъ |
| дасягненне | нетидже |
| даўно | чокътан берли |
| даць | бермек |
| дачка | къызым |
| два | эки |
| дваццаць | йигрими |
| двор | азбар |
| дзверы | къапы |
| дзвесце | экиюз |
| дзе | къайда |
| дзевяты | докъузынджы |

| беларускае слова | крыскататарскае слова |
| --- | --- |
| дзевяць | докъуз |
| дзевяцьсот | докъуз юз |
| дзед | къартий / къарт баба / |
| дзейнасць | арекетлик |
| дзень | кунь |
| дзесяты | онджы |
| дзесяць | он |
| дзесятка | балам / балачыкъ / |

## КРЫМСКАТАТАРСКІЯ ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Той, хто хоча працаваць -- шукае магчымасць, а гультай жа шукае адгаворку.

Иш япмагъа истеген чаре къыдырыр, иш япмагъа истемеген мана къыдырыр.

Эшекнинъ итибары юк чекkенде. Асла паважаюць толькі тады, калі ён перавозіць паклажу.

Терекнинъ итибары боюнда дегиль, мейвасында.
Дрэва паважаюць не за вышыню, а за плады.

Гавару для дачкі, але і нявестка слухай.
Къызым санъа айтам, келиним сен анъла.

Дурняў у свеце бясконца многа. Дюнь янынъ делиси битмез.

Досттан душман олмаз дегенлер, досттан душман ола экен.
Кажуць што сябр не можа стаць ворагам, але здараецца і такое.

Займацца навукай так жа лёгка, як іголкай капаць студню.
Ишинен огърашмакъ -- иненен къую къазмакъ дегенеер.

## САГЫНУ -- ЗНЯМОГА

Казанскататарская песня. Словы М.Джаліля. Музыка З.Хабібуліна

Adagio

Гөл чә - чәк лә - рен ө - зәм мин, юл - ла - ры - ңа

те - зәм мин те - зәм мин. Бик сагындым,

бәгъ-рем бик сагындым сине, ә - ле дә ни - чек ту-зәм мин!

Гөл чәчәкләрен өзәм мин,
Юлларыңа тезәм мин.
Бик сагындым, бәгърем,
Бик сагындым сине,
Әле дә ничек түзәм мин!

Таң атканда уянырмын,
Җилкәмә шәл салырмын.
Таң шикелле балкып
Тиздән кайтыр булсаң,
Каршы чыгып алырмын.

Лепестки цветов срываю,
Устилаю ими путь.
Грусть, тоска по милом
С неизбывной силой
Наполняет грудь.

Только вспыхнет луч восхода
Шаль накину я скорей
И тебя, прекрасный,
Зоренькою ясной
Выйду встретить у дверей.

## З ТАТАРСКАЙ КУХНІ

С у м с а з м я с а м. Прамытае мяса дробна парэзаць, разам з цыбуляй прапусціць праз мясарубку. Дадаць соль, перац, крыху вады і усё старанна перамяшаць і злёгку падсмажыць на патэльні з маслам.

Дражджавое цеста парэзаць на кавалкі вагой 40 -- 50 г. Кавалкі цеста раскачаць злёгку качалкай. На адну палавіну раскачанай ляпёшкі пакласці мясную начынку, пакрыць другой ляпёшкай і зашчыпаць краі, даць піражкам падняцца , затым смажыць на патэльні у масле.

На адну сумсу бяруць: 40 -- 50 г цеста, 50 г мяса, 6 -- 10 г масла для смажання.

А л ь б а. Гэта страва-далікатэс гатуецца з высакаякаснай белай пшанічнай мукі. Муку малымі порцыямі высыпаюць у распушчанае масла / 200 г / і смажаць пакуль мука не парыжэе. Затым трэба дадаць ваду з цукрам і варыць 15 -- 20 хвілін. Прыгатаваная альба мае жоўты колер. Калі неабходна іншая афарбоўка, то дадаюць вішнёвы сок.

На 2,5 -- 3 шклянкі мукі бяруць: 100 г вады, 1 шклянку цукру.

Т а л а к н о з а ў с я н а й м у к і. Высыпаюць аўсяную муку у распушчанае масла і смажаць да парыжэння. Калі мука падсмажыцца, дадаць падсоленай вады і старанна перамяшаць. На 1 кг мукі бяруць 200 -- 300 г вады, 200 -- 250 г масла, крыху солі.

## З М Е С Т